
Анна ЛАЕЎСКАЯ→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ



Дом маці маёй→4

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714

№ 21 (3341) Год LXV | Беласток, 24 мая 2020 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


Кліматычныя змены, выкліканы перш за ўсё ўмяшаннем людзей у прыроду, прычыняюцца да засухі. Выпрамленне ракі Нараўкі і астатніх пушчанскіх рэчак і меліярацыйныя працы ў Белавежскай пушчы і яе наваколлі, якія праводзіліся ў галоўным з пяцідзясятых па сямідзясятыя гады мінулага стагоддзя давялі да паніжэння ўзроўню вады ў пушчанскім лесе. Па гэтай прычыне моцна паслабела здольнасць абароны дрэў, асабліва елак, перад шкоднікамі. Зараз у пушчы можна пабачыць многа засохлых елак, якія нішчаць караеды. Іх высякаюць перш за ўсё пры дарогах і пушчанскіх сцежках, каб не стваралі небяспекі людзям. Амаль бясснежная зіма з высокай сярэдняй тэмпературай і вельмі сухая вясна адмоўна ўздзейнічаюць на пушчанскі лес, які вельмі хутка сохне на вачах мясцовага насельніцтва. Засуху адчуваюць усе віды пушчанскіх дрэў і расліннасць. Не адмянілі яе невялікія ападкі дажджу ў пачатку мая. Такая абстаноўка пагражае пажарамі ў лясах. Успыхвалі яны ў гэтым годзе па абодвух баках польска-беларускай мяжы, якая вузкай паласой раздзяляе Белавежскую пушчу. Пажарнікі Гайнаўскага павета тушылі таксама пажары на лугах у пушчы і яе наваколлі, якія маглі б прычыніцца да пажару пушчанскага комплексу.

Дзяржаўныя лясы і Белавежскі нацыянальны парк на польскім баку і Нацыянальны парк «Белавежская пушча» на беларускім плануюць сумесныя інвестыцыі з мэтай паляпшэння гідралагічных умоў неабходных для росту пушчанскай раслінасці. Плануюцца работы перш за ўсё на рацэ Нараўцы, якая выплывае з Рэспублікі Беларусь, плыве праз Белавежскую пушчу і ўліваецца ў Нарву. Была яна праставаная яшчэ ў канцы васямнаццатага стагоддзя, каб можна было ёю сплаўляць драўніну. Аднак яшчэ да часу асушэння балот, якое праводзіліся з пяцідзясятых па сямідзясятыя гады мінулага стагоддзя каля ракі Нараўкі, у пушчы вада плыла праз балотныя месцы шырокім цячэннем. З часу, калі былі выкапаны глыбокія равы ў Беларусі і асушыліся тарфянікі і яшчэ больш была выпрамлена Нараўка ў Польшчы, вада з Белавежскай пушчы стала намнога хутчэй сплываць, а гідралагічныя ўмовы сталі пагаршацца. Калі зімой снег ляжаў на палях і ў лясах, вясна і лета былі мокрымі, дрэвы ў пушчы не адчувалі дэфіцыту вады. Апошнімі гадамі, калі зімы сталі маласнежнымі, а вёсны і леты — больш сухімі, узровень вады ў глебе ў Белавежскай пушчы надта панізіўся. Даволі гэта да асушэння тэрыторыі пушчы і зараз вельмі складана адмяніць склаўшуюся сітуацыю. Аднак нават малымі крокамі варта нешта рабіць. У апошні час на тэрыторыі Польшчы на Нараўцы вяліся працы, якія рэчышча зрабілі больш пакручастым, што ў пэўнай ступені запаволіла цячэнне вады. Прадбачваюцца чарговыя гідралагічныя працы, якія маюць ліквідаваць штучна выпрамленае цячэнне Нараўкі на тэрыторыі Надлясніцтваў Белавежа і Броўск. Усе работы на рацэ Нараўцы патрэбныя дзеля ўтрымання ўзроўню вады ў глебе і супрацьдзеяння асушванню яе на тэрыторыі пушчы. Недахоп вады адчуваюць таксама дрэвы ў навакольных прыватных лясах. Першапачаткова засыхаюць елкі, якія становяцца пажывай для караедаў. Эксперты мяркуюць, што пазней пачнуць засыхаць таксама сосны і частка астатняй раслінасці.




Сухія дрэвы пакінутыя для натуральнага распаду

# Сохне Белавежская пушча

Многа лясоў гарэла апошнім часам у краінах Еўрасаюза. Пажарам спрыяла засуха. З 20 красавіка ў нашай краіне адменена забарона ўваходзіць у лес з мэтай адпачынку. Наведвальнікі лясоў абавязаны паводзіць сябе асцярожна, каб не прычыніцца да ўспышкі пажараў. Засуха ў лясах паяўляецца крыху пазней, чым на палях, паколькі цень дрэў прытармоўвае перасушванне глебы. Часта да пажараў у лясах прычыняюцца людзі. У Польшчы ад пачатку года ў лясах успыхнула звыш 200 пажараў. Толькі ў Баброўскім нацыянальным парку пажар знішчыў звыш пяці тысяч гектараў лясоў і лугоў (каля 10% яго плошчы). З пажарам змагаліся там пажарнікі з розных рэгіёнаў Польшчы, вайскоўцы і добраахвотнікі, тушылі яго з самалётаў і верталётаў. Сёлета толькі ў польскай частцы Белавежскай пушчы ўспыхнула дзевяць пажараў. Аднак пажарнікі з часцей у Гайнаўцы і Чаромсе, а таксама дабравольцы з Гайнаўскага павета хутка справіліся з імі.

У тушэнні пажару ў Белавежскай пушчы, які ўспыхнуў перад Вялікаднем у наваколлі Чахоў-Арлянскіх, прымалі ўдзел прафесійныя пажарнікі і дабравольцы з Дубіцкай гміны. Ужо пасля праваднай нядзелі на энергетычныя правады ў Белавежскай пушчы паміж Альхоўкай і Новым Масевам упала сухая елка, ад чаго ўспыхнуў пажар. Эксперты па тушэнні пажараў мяркуюць, што некаторыя пажары ў Белавежскай пушчы маглі быць рэзультатам падпалаў, але большасць гэта вынік неасцярожнасці наведвальнікаў пушчы. Летам здараюцца выпадкі пажараў ад удару грому. Пажарнікі звяртаюць увагу, што сухія елкі, якія ляжаць у пушчы, могуць прычыніцца не толькі да ўспышкі пажару, але таксама ўскладніць пад'езд пажарнай тэхнікі да агню. Ад часу, калі караеды сталі масава нішчыць елкі ў пушчы, вядзецца бурлівая дыскусія, што рабіць з засохлымі дрэвамі. Вырашальнымі ў гэтай справе з'яўляюцца ўказанні дзяржаўных улад, якія цяпер у большасці выпадкаў не даюць згоды вывозіць засохлыя дрэвы з пушчы з разлікам, што паляны аблесяцца ў натуральны спосаб.

У канцы красавіка і на пачатку мая ў Белавежскай пушчы бачыў я гайнавян, якія на машынах, веласіпедах і пяшком дзеля рэкрэацыі перамяшчаліся па пушчанскіх трыбах. Пабачыў я таксама многа ссечанай засохлай яліны, якая ляжала каля трыб. Яшчэ ў першай палове мая высечка сухіх дрэў пачалася паабапал ваяводскай дарогі з Белавежы ў Гайнаўку, на тэрыторыі Надлясніцтва Белавежа, па якой апрача мясцовага насельніцтва праязджае многа турыстаў. Такія працы будуць весціся таксама ў іншых надлясніцтвах на тэрыторыі Белавежскай пушчы.

— Спачатку ляснічыя робяць агляд дрэў на сваёй тэрыторыі і калі бачаць засохлыя дрэвы, апісваюць, якую яны састаўляюць пагрозу ў публічнай прасторы. На гэтай падставе паасобныя надлясніцтвы састаўляюць план высечкі сухіх дрэў каля дарог, аўтастаянак, непадалёк месцаў прабывання людзей. Пасля высечкі сухія дрэвы пакідаюцца для натуральнага распаду, — паінфармаваў прэс-сакратар Рэгіянальнай дырэкцыі Дзяржаўных лясоў у Беластоку Яраслаў Краўчык.

У час вясенніх і летніх бур сухія дрэвы вецер найчасцей ломіць або выварочвае.

— Мы перш за ўсё высякаем сухія дрэвы каля пушчанскіх дарог, каб у час ветру не зламаліся і не ўпалі на людзей, якія перамяшчаюцца на аўтамабілях, роварах або пяшком. Няма згоды ўлад вывозіць сухія дрэвы з пушчы. Сухая драўніна ляжыць на месцы, дзе яшчэ раней раслі прыгожыя елкі, — заявіў лясны працаўнік.

Ажно каля 30 пажараў успыхнула ў 2020 годзе на лугах распаложаных непадалёк ад пушчы. Нядаўна на прэс-канферэнцыі міністр асяроддзя Міхал Вось паінфармаваў аб прапанове ўвядзення за выпальванне траў штрафу размерам да 30 тысяч злотых. Прадбачваецца, што менавіта прычынай пажару ў Баброўскім нацыянальным парку было выпальванне траў.

— У нас гаспадары ўжо здаўна не выпальваюць траў. Мой знаёмы толькі запаліў вогнішча на сваім панадворку ў Гайнаўцы і зараз нехта з суседзяў або мінакоў патэлефанаваў пажарнікам і тыя аштрафавалі яго. Я ўжо купіў драбілку для голля, каб яго рассячы на дробныя кусочкі і не трэба будзе паліць голле на панадворку, — заявіў жыхар падгайнаўскай вёскі. — Апошнім часам былі пажары ў Белавежскай пушчы і яны маглі быць выкліканы неасцярожнасцю людзей. Калі я нядаўна быў у Гайнаўцы, машына пажарнай аховы ехала ў напрамку Дубін. Пазней я даведаўся, што ў наваколлі гэтай вёскі быў пажар на лузе.

27 красавіка ўспыхнуў пажар у Белавежскай пушчы на мяжы з Беларуссю. Беларускія пагранічнікі паведамілі польскіх калег аб пажары ў адлегласці 50 метраў ад мяжы. На месцы дзейнасці Пагранічнай аховы ў Белавежы гарэлі сухая трава і чарот. Пажарнікі і жаўнеры хутка патушылі пажар. Побач мяжы з Беларуссю на тэрыторыі Польшчы згарэла каля гектара нясконшанай травы і чароту.

Тэкст і фота
Аляксей МАРОЗА



# Хто пойдзе „да канца”?

Адвыклі мы тут, у Беларусі, зусім ад выбараў, здзічэлі, засумавалі па магчымасці нешта пераменіць. І з рознай ступенню зайздрасці глядзім у бок суседзяў — паўночных, паўднёвых, заходніх. Праўда, не заўсёды ад тых перамен у сумежных дзяржавах пазітыўныя ўражанні і адчуванні, а ўсё роўна зайздросцім. Такі вось парадокс. Толькі ўсходнім суседзям не зайздросцім — там права выбару няма яшчэ з часу Івана Жахлівага, там ужо пяць стагоддзяў без істотных перамен.

2020 год з яго пандэміяй COVID-19 паламаў сцэнарыі розным палітычным кампаніям у свеце. Вось і ў Польшчы незразумела калі і як пройдуць чарговыя прэзідэнцкія выбары, якія меліся прайсці ў траўні. У асаблівых умовах напэўна пройдуць прэзідэнцкія выбары ў Амерыцы. У Ізраілі ў выніку палітычных дыскусій і баталій больш года ўзгаднялі прызначэнне ўрада. Вось як ускладняюць дэмакратычныя механізмы, а таксама новыя рэаліі жыццё народаў.

І толькі ў Беларусі ўсё прадказальна і вызначана загадзя. Як сказаў бы адзін кінагерой, па простасці гэта нагадвае антычнасць. Праходзяць чатыры ці пяць гадоў і на авансцэну выходзіць вечная služыцельніца палітычнай Мельпамены Лідзія Ярмошына. Яна абвяшчае чарговыя „вырабы” з загадзя вызначаным сцэнарыем і нязменным пераможцам. Пасля гэтага на арэне з'яўляецца група акцёраў і ўяўных „гладыятараў”, якія заяўляюць, што пойдуць калідорамі гэтага тэатральнага Калізея „да канца”. Цікава, ці задумваюцца яны, што ісці „да канца” ў нашай сітуацыі — гэта як мінімум ісці ў турму і на катаванні, як здарылася гэта ў 2006 годзе з Аляксандрам Казуліным, ці ў 2010 годзе з цэлым шэрагам кандыдатаў, сярод якіх вылучаліся дзве надзвычай моцныя фігуры — Андрэй Саннікаў і Уладзімір Някляеў. Абодвух ледзь не забілі тады...

Сёлета чарговыя „вырабы” былі абвешчаны ў асаблівым рэжыме — на фармаванне ініцыятыўных груп быў адведзены мізэрны час. Праўда, гэта не так ужо істотна, паколькі збіраць галасы ў сітуацыі эпідэміі, якая яшчэ далёкая да згасання, пойдуць толькі рэдкія фанатыкі ці вельмі наіўныя людзі. Нямногія жыхары адкрыюць ім дзверы сваіх дамоў і кватэр. Рэальна сабраць ажно 100 тысяч подпісаў не ў змозе ніхто, уключна з нязменным начальнікам дзяржавы. Ну, яму то канешне намалююць гэтыя сто тысяч, хоць зрэшты і гэта непатрэбна. Фармальнасці можна выканаць і не выконваючы іх, а проста абвесціўшы, што яны выкананы. Ніхто ж нічога не ўбачыць і нічога не праверыць. Так, зафіксуецца дзясятак парушэнняў, напішацца пару скаргаў ды адозваў да міжнародных структур. Прадстаўнікі гэтых міжнародных структур пахітаюць галавой і скажуць далей дакзваць нетранспарэнтнасць і непразрыстасць выбараў у Беларусі. Хоць пры нармальным падыходзе легітымнасць гэтай улады нельга прызнаваць, пачынаючы ўжо як мінімум з 1999 года. Чаму праз кожныя чатыры ці пяць гадоў гэта трэба даказваць нанова — зразумець цяжка. Гэта як перыядычна назіраць за згвалтаваннем, дэталёва фіксуючы як яно прайшло — звычайна, цынічна ці ў асабліва вычварэнскіх формах.

Найбольш ціха і трывіяльна было ў кампаніях 2001 і 2015 гадоў. Гэта менавіта тады, калі ніхто з альтэрнатыўных кандыдатаў у прэзідэнты нават не паспрабаваў нейкім чынам паламаць зацверджаны ў менскім „чырвоным доме” сцэнарый. А людзі разумелі, што няма за каго выходзіць на Плошчу. Гэты досвед і пастарэцца скарыстаць дружына нязменнага „гаранта стабільнасці”. Ужо „адфільтраваныя” патэнцыйныя кандыдаты пратэсту, якіх не выпусцяць на стадыю нават збору подпісаў. Характарызаваць іншых прэтэндэнтаў пакуль не варта. Ужо вядома, што пад нумарам адзін традыцыйна зарэгістраваны „адзіны і вечны”, пад нумарам два — надзейны спарынг-партнёр, нашчадны прынц так званай Ліберальна-дэмакратычнай партыі. Яе шматкольскасных членаў ніхто ніколі не бачыў у твар, акрамя кіраўніка. Але, мабыць, дзесьці яны ёсць. Выпаўзла нечаканa і парачка новых і досыць незвычайных фігур — цяпер невялікая інтрыжка — ці зарэгіструюць іх ініцыятыўныя групы. Хутчэй усяго зарэгіструюць — тады і пагаворым.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Дамо сабе рады!



Колькасць кандыдатаў, якія падалі заяўку на рэгістрацыю сваіх выбарчых камітэтаў на будучых прэзідэнцкіх выбарах у Беларусі, стала рэкорднай. Гэта 55 чалавек! У параўнанні з Польшчай, якая таксама рыхтуецца абраць прэзідэнта, гэта амаль на парадак больш. Ці ў беларусаў вочы шырэй расплюшчыліся, чым у палякаў? Я пытаюся, а чаму польскае грамадства не выкарыстае развіты беларускі варыянт у сябе, паставіўшы 10 000 кандыдатаў? І чаму б усе грамадзяне, здольныя згодна з правам вылучыцца кандыдатам, не павінны заявіцца да прэзідэнцкіх выбараў — ці гэта парушала б прынцыпы дэмакратыі? Канешне, не. Тым больш, што кожны з іх мае сваё бачанне ўлады, лепшых улад, найбольш справядлівага пагаднення з грамадствам на аснове сваіх, абгрунтаваных дэкларацый аб выбарах. Нават той сярэднестатыстычны недурны чалавек з Беластока, які аднойчы з нецярпеннем перабіраў нагамі, каб балатавацца на пасаду прэзідэнта Рэспублікі Польшча, прыдумаў цалкам разумны электаральны лозунг: «Справа ў тым, каб было добра!» Таму мой пастулат, каб грамадзяне Беларусі ці Польшчы масава звярталіся на пасаду прэзідэнта, не такі пусты. Ні Аляксандр Лукашэнка, ні Анджэй Дуда, ні хто-небудзь з зарэгістраваных кандыдатаў не больш спецыяльны, асабліва заслугоўваючы і геніяльны, чым гэты чалавек з Беластока. На практыцы, аднак, не кожны выбаршчык можа быць абраны — хаця тэарэтычна, чаму б і не ?! Падобным чынам, тэарэтычна любы выбаршчык можа стаяць за голас усіх выбаршчыкаў. На практыцы, аднак, інакш. Усюды знойдзецца такі выбарчы вашанок, які заблытае ясную карціну адзінага правільнага пераможцы, які прагаласуе насуперак і супраць яго.

Мы хочам гэтага ці не, мусім пагадзіцца з тым, што нельга ўсім кіраваць усімі (ці быў бы гэта прыклад дасканалай дэмакратыі?). Хаця, што недарэчна, гэта магчыма, таму што кожны чалавек мае права падаць заяву, каб кіраваць усімі. Гэта права запісана ў канстытуцыі любой краіны (за рэдкім недэмакратычным выключэннем). За выключэннем адной праблемы з дэмакратыяй. Які чалавек мае сваю рацыю, свой погляд. Увогуле, колькі ёсць асоб, столькі эгаістычных мэт, хоць і абумоўленых нормамі супольнасці. Адна з іх такая, што «большасць мае рацыю». Хаця таксама і з выключэннем. Менавіта таму ў нас так шмат разнавіднасцей дэмакратыі. Як людзі, мы своеасаблівы віж капрызных індывідуалістаў, якія, акрамя свайго відавога статка, не ў стане нармальна жыць. Таму мы індывідуалісты толькі ў калекцыі падобных асоб. Як ні парадаксальна, выключаючысь за яе межы, мы губляем перакананасць ва ўласнай унікальнасці. Гэтая дваістасць чалавечай прыроды — супярэчлівая сама па сабе — была прадэманстравана часам дзяржаўнай ізаляцыі, выкліканай каранавірусам. Тое, што дзяржава мае ў сваіх схаваных рэсурсах таталітарныя інструменты, якімі яна карыстаецца так свабодна, наколькі гэта дазваляецца альбо выключнымі абставінамі (напрыклад, стыхійным бедствам альбо эпідэміяй), альбо прававымі і канстытуцыйнымі механізмамі кантролю, альбо, нарэшце, сацыяльнымі, гэта сапраўды турбота. Таму што гэтыя механізмы аказаліся ненадзейнымі. На жаль, парламенцкія апазіцыйныя сілы, якія па сваёй прыродзе павінны падтрымліваць усталяваны закон і канстытуцыю і бязлітасна прымяняць іх у дачыненні да цяперашняй улады, цалкам не справіліся з гэтай разрухай. І грамадства індывідуалістаў не змагло гэта эфектыўна прадухіліць. Уся справа ў тым, што адзінай рэальнай і эфектыўнай апазіцыйнай сілай у краіне рана ці позна стане... само грамадства. Не партыі, не светапогляды. Перад гэтым, аднак, арда індывідуалістаў павінна ўсвядоміць гэта. Дзяржаву, як квазіфранкенштэйнскі твор, якія складаецца з розных, не абавязкова эфектыўных частак, трэба трымаць за пысу! Аднак гэта не зробіш без пільнага кантролю дзеючай улады. Бо што б там ні было, яна заўсёды пранізвае структуры дзяржавы і бярэ на сябе яе арганічныя функцыі. Вяртаючыся да часу цяперашняга каранціну, я не сумняваюся, што гэта будзе адлюстравана ў сістэмнай ікаўцы ў бліжэйшы час. Акрамя масавага сыпу эмацыянальных і псіхічных расстройстваў, я задаю пытанне, ці паўплывае гэта і на наш прыроджаны індывідуалізм, які прывядзе да тугі па анархіі ці да неабходнасці пачуцця супольнасці, што ў сваю чаргу накіруе нас да папуліцкіх рашэнняў. Пакуль што я пакідаю пытанне без адказу. Таму што я яго не ведаю. Але для агульнай карысці, справімся з гэтым.

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Засуха на чарназёме

Як не каранавірус, то холад, засуха і няўпэўненасць у будучым плёне ў гаспадарцы. Не ідзе тут размова толькі пра нашы, прыхатнія загоны ці сады, але вялікія арэалы лугоў і збожжавых пасеваў, якія гарантуюць харчовую бяспеку дзяржавам, ці кантынентам. Усё па прычыне структурнай нястачы вады ўжо ў самой зямлі ў нашай частцы Еўропы. Паколькі Польшча, Беларусь, Украіна гэта краіны, якія ўмоўна завуцца малаком і збожжам плывучымі, то без гэтай часткі сваёй гаспадаркі прывід збяднення можа вокамгненна ўспыхнуць рэальнасцю. Вырашыў я пацікавіцца, а што там дзеецца ва Украіне, паколькі апошнімі гадамі на сусветным рынку становіцца яна адным з важнейшых экспарцёраў збожжа. У бюджэце краіны на долю сельскагаспадарчага сектара прыпадае аж 44 адсоткі прыбытку ад экспарту. У гэтым годзе эксперты сцвярджаюць, што ў сувязі з засухай дасягнуць такіх паказчыкаў будзе немагчыма. Прыняты ўжо пры прэзідэнце Уладзіміры Зяленскім новы закон аб уласнасці зямлі ставіць новыя выклікі і супярэчнасці на багатай чарназёмам Украіне. З 2021 года рынак зямлі мае там быць адкрытым для свабоднага тавараабароту. Што гэта можа абазначаць на практыцы для такой неверагодна даступнай для прыватызацыі жыццядайнай зямлі, аж страх падумаць. Змаганне за зямлю на Украіне — выклік для ўкраінскіх алігархаў і міжнародных карпарацый, якія будуць імкнуцца хутка абысці законы, каб стаць уладальнікамі латыфундый. Але гэта яшчэ адна вялікая, украінская загвоздка. А тут на пачатку маіх пошукаў у інтэрнэце даведваюся пра пясчаныя буры ў Кіеве ў палове красавіка гэтага года, пустынныя абшары, дзе раней расла сакавітая трава і найбольшую ад ста дваццаці гадоў засуху, якой яшчэ не бачыла Украіна. А ўсё між іншым і па прычыне высахлых палескіх балот, якія стагоддзямі былі скрытымі, вадзянымі басейнамі. Дзесяцігоддзямі дрэнажаваныя і асушваныя пад пасевы, пазбаўленыя здабытага торфу і ссечаных дрэў палескія балоты пасля мінулай бясснежнай зімы аказаліся без вады. У такой сітуацыі моцныя вятры панеслі і засыпалі земляным пылам бліжэйшыя і далейшыя тэрыторыі. Разаранае Палессе, як і ўся Украіна дзякуючы вялікім аграхолдынгам і арандатарам дасягнула зараз узровень 70 адсоткаў ад усіх сельскагаспадарчых угоддзяў. Бязлітасна выворваюцца сенажатныя лугі і карчуюцца ўсялякія прамежкавыя лясы. Нават рэзерваты прыроды часта становяцца ахвярамі ненасытнасці монакультурнай вытворчасці. У Еўропе зараз сярэдняя заараных тэрыторый складае 35 адсоткаў ад усяго абшару. Тое, што адбываецца на беларускім баку Палесся, гэта ж такая ж самая гісторыя. І пясчаныя буры ў сінявокай Беларусі ў гэтым годзе з'ява ўжо не надзвычайная. Пыл і жах пустынных краявідаў гэта расплата за знішчэнне натуральнага водацячэння дрыгвянога свету. Па прычыне цёплай зімы нястача вады ў рэках гэта невыпадковасць. Аднак яе забруджанасць нясе шмат пагроз для людзей і жывёлы. Беручы зараз пад увагу нізкі ўзровень вады, ападкі дажджоў ніжэй нормы ў перыяд вегетацыі і адначасны рост тэмпературы, гідралагічная засуха летам можа патрабаваць абмежавання ў спажыванні вады. Перш за ўсё кране гэта сельскую гаспадарку ў доўгатэрміновым плане. Украінскія навукоўцы перасцерагаюць, што з-за нястачы дажджоў некаторыя меншыя рэкі цалкам могуць высахнуць. Інфармуюць яны што па прычыне засухі страчана ўжо 80% пасяўных на ўкраінскай частцы Бесарабіі. Мясцовыя фермеры ратуюцца штучным навадненнем і лічаць страты на арандаванай зямлі. Выходзіць ім па 500 долараў з гектара. У такой сітуацыі з году ў год павольшваюцца плошчы, на якіх, каб весці сельскагаспадарчую прадукцыю, трэба пастаянна трымаць штучнае навадненне. Недахоп вады гэта таксама абмежаванне іншых галін вытворчасці, такіх як гідраэлектрастанцыі, прамысловасць, турызм, вадзяны транспарт. У такім выпадку для ўрада напэўна прыярытэтам будзе забеспячэнне людзям вады для спажывання. На практыцы гэта выкліча абмежаванні ў карыстанні вадою ў прамысловай сферы, у тым і аграрнай. Без вады няма жыцця — прызабытая намі праўда рэзка і хутка страпяне мазгі і ў нашым старонні.

Яўген ВАПА

Настаўнікі роднай мовы

# Палохае і наклікае стому тое, калі нехта знаёмы кажа: мая ўнучка не вывучае беларускай мовы, бо яна ёй непатрэбная. Трагедыя!

**— Чаму Вы сталі настаўнікам беларускай мовы?**

— Гэта была мая мара з дзяцінства. Пасля заканчэння пачатковай школы ў Старым Корніне я паступіла ў Гайнаўскі белліцэй, а потым на беларускую філалогію ў Варшаве. Я вельмі люблю сваю прафесію, рада што споўніліся мае мары ды столькі гадоў навучаю дзяцей беларускай мове.

**— Хто для Вас ідэал настаўніка роднай мовы?**

— Ідэалам настаўніка беларускай мовы для мяне з'яўляецца Іаланта Грыгарук. Гэта настаўнік з вялікімі ведамі, інтэлігентнасцю, вельмі аддадзены сваёй працы і роднай старонцы. Яе вельмі цаню і як настаўніка, і як чалавека.

**— Ці супрацоўнічаеце з настаўнікамі беларускай мовы ў іншых школах? Калі так, назавіце сваіх сяброў.**

— Вельмі добра складаецца мне супрацоўніцтва з Валянцінай Андрасюк, паколькі працуем у адной школе. Таксама з Іалантай Грыгарук і Людмілай Грыгарук.

**— Якія арганізацыі і ўстановы, паводле Вас, найбольш дапамагаюць?**

— БГКТ, «Ніва», Беларускае гістарычнае таварыства.

**— Ці ведзяце ў школе беларускія праекты для сваіх вучняў? Калі так, назавіце іх.**

— Разам з сяброўкай Валянцінай арганізуем «Масленіцу», «Каляды», вялі таксама тэатральны гурток.

**— Ваш любімы беларускі конкурс?**

— Мой любімы конкурс — «Роднае слова». Дзеткі ахвотна прымаюць у ім удзел, самі падбіраюць вершы і іх старанна вывучаюць. А калі бачыш іх ангажаванасць, дык і настаўніку прыемна з імі працаваць.

**— Ці можаце разлічваць на дапамогу бацькоў, асяроддзя?**

— Так, я магу разлічваць на дапамогу бацькоў і асяроддзя пры арганізацыі праектаў для вучняў.

**— Ці навучанне на прынцыпе добраахвотнасці для Вас складанасць ці, можа, козыр?**

— Навучанне на прынцыпе добраахвотнасці для мяне козыр. У нашай школе амаль усе дзеткі вучацца беларускай мове. Актыўна працуюць на ўроках, актыўна прымаюць удзел у беларускіх конкурсах і праектах, а бацькі нам у гэтым дапамагаюць.

**— Ці можаце зрабіць усё за тры гадзіны ў тыдзень, што раней запланавалі?**

— Не заўсёды, таму што некаторыя вучні патрабуюць большай увагі і дапамогі настаўніка. Часта бывае, што вучні самі прапануюць тэму ўрока і тады ўсе вельмі актыўныя.



**Анна ЛАЕЎСКАЯ** (з дому Далінская) нарадзілася 6 студзеня 1961 года ў Гайнаўцы, пачатковую адукацыю атрымала ў роднай вёсцы — Старым Корніне. Закончыла Гайнаўскі белліцэй і беларускую філалогію ў Варшаўскім універсітэце. У 1986 годзе (у месяцы маі) выйшла замуж за Янку Лаеўскага, затым пасля заканчэння вучобы вярнулася на Гайнаўшчыну, ды з верасня 1986 года пачала працаваць настаўніцай беларускай мовы ў Чыжах. У 1991 годзе закончыла яшчэ польскую філалогію ў Седльцах. Ужо 34 гады нязменна працуе ў Чыжах настаўніцай беларускай і польскай моў. Жыве з мужам у Гайнаўцы. У спадарства Лаеўскіх ужо двое ўнукаў.

**— Ёсць у Вас лаўрэаты прадметнага конкурсу? Калі так, назавіце іх лік.**

— На працягу шматгадовай працы ў мяне было чатырох лаўрэатаў прадметнага конкурсу па беларускай мове.

**— Ці паводле Вас падручнікі па беларускай мове дапасаваныя да сучаснасці?**

— Падручнікі для класаў 5-8, паводле мяне, зусім недапасаваныя да сучаснасці. І гэта вялікая перашкода ў навучанні роднай мове.

**— Ваш любімы падручнік па беларускай мове?**

— Найлепш мне працуецца з «Вясцянкай» для 5 класа аўтарства Тамары Русачык.

**— Хто Ваш любімы беларускі аўтар?**

— Я вельмі любіла творы Кандрата Крапівы, аднак маім любімым паэтам з'яўляецца Віктар Швед.

**— Якую беларускую кніжку Вы актуальна чытаеце?**

— Актуальна чытаю анталогію беларускай паэзіі „Nie chyliłem czoła przed mocą" пад рэдакцыяй Лявона Баршчэўскага і Адама Паморскага.

**— Ці прывіваеце цікавасць да беларускай прэсы?**

— Люблю чытаць беларускую прэсу, часта чытаю «Ніву» дзеткам.

**— Якое, паводле Вас, самае цікавае беларускае мерапрыемства?**

— Паводле мяне ўсе беларускія мерапрыемствы цікавыя і выклікаюць вялікую зацікаўленасць сярод людзей. Аднак мне найбольш падабаецца Купалле ў Белавежы.

**— Ці размаўляеце са сваімі вучнямі па-беларуску па-за ўрокамі, школай?**

— Вельмі часта. Многа нашых вучняў гаворыць на мясцовай гаворцы.

**— Ці маеце прыкрыя ўспаміны ў сувязі са сваёй прафесіяй?**

— Напэўна, калі працуеш многа гадоў у школе, здараюцца невялікія прыкрыя здарэнні. Аднак я захоўваю ў памяці самыя добрыя ўспаміны.

**— Што Вас палохае, наклікае стому?**

— Палохае і наклікае стому тое, калі нехта знаёмы кажа такія словы: мая ўнучка не вывучае беларускай мовы, бо яна ёй непатрэбная. Гэта ж трагедыя!

**— Ці сярод Вашых вучняў ёсць вядомыя выпускнікі?**

— Мае вучні здабылі розныя прафесіі, аднак не да канца ведаю, хто чым займаецца.

**— Ці атрымалі Вы ўзнагароды за сваю працу (грашовыя, ганаровыя)?**

— Так, за сваю працу я атрымала грашовыя ўзнагароды. Аднак найлепшая ўзнагарода для настаўніка — добрыя словы ад дзяцей пра родную мову і сваю настаўніцу. Для такіх слоў варта быць настаўнікам.

**— Што Вам дае сілу, натхненне?**

— Сілу да працы і натхненне даюць мне дзеткі. Прафесія настаўніка — гэта здзяйсненне маіх мараў. Жыццярадаснасць дзяцей, іх аптымізм даюць мне шмат энергіі да жыцця і працы. Люблю школу поўную дзіцячага гоману і радасці.

**— Самы цудоўны ўспамін настаўніка беларускай мовы?**

— Мае ўспаміны, як настаўніцы беларускай мовы, усе цудоўныя.

**— Які нацыянальны сімвал упрыгожвае Ваш клас?**

— У класе, дзе я вучу беларускай мове, ёсць насценная газета з сучасным сцягам РБ. Яго размалявалі самі вучні на нашых уроках.

**— Як бачыце будучыню беларусаў?**

— Будучыня беларусаў залежыць ад таго, як бацькі выхаваюць сваіх дзяцей, якія традыцыі і звычаі ім перакажуць.

Апытальнік правяла
**Ганна КАНДРАЦЮК**

## Рэкордная сума на ахову помнікаў

Сёлета ваяводскі самаўрад Падляшша выдзеліў 2 мільёны 400 тысяч злотых на рэканструкцыю, кансервацыйныя работы і абнаўленне помнікаў. Гэта амаль на 1,5 мільёна больш, чым у мінулым годзе. Гэтыя грошы дазволяць праводзіць работы ў 45 гістарычных будынках на Падляшшы.

— Цяпер мы, перш за ўсё, змагаемся з эпідэміяй, але не павінны забываць пра тое, што самае галоўнае — наша спадчына, — падкрэсліў маршалак Артур Касіцкі. — Таму замест таго, каб, як і іншыя органы мясцовага самакіравання, скараціць аб'ём фінансавання, мы вырашылі павялічыць субсідыі. Помнікі — гэта наша нацыянальная каштоўнасць, наша традыцыя, наша самабытнасць. Мы павінны клапаціцца пра гэта, незалежна ад таго, ці працягваецца эпідэмія, ці ёсць іншыя цяжкасці. Мы павінны абараніць сваю спадчыну.

Маршалак таксама звярнуў увагу на эканамічны аспект субсідзіраваных прадпрыемстваў. „Кансервацыя і абнаўленне помнікаў таксама азначае працаўладкаванне і ўзнагароджанне для асоб і кампаній, якія займаюцца гэтым відам прац. Грошы на рэканструкцыю помнікаў пойдуць на кожны павет у Падляшскім ваяводстве".

Дзякуючы рэкорднай суме будзе дафінансавана рэканструкцыя, рэстаўрацыя і мадэрнізацыя 45 помнікаў Падляшша. У асноўным гэта касцёлы і цэрквы, бо большасць помнікаў нашага ваяводства складаюць сакральныя будынкі.

Субсідыю атрымаюць сярод іншых парафіі святога Юзафа і св. Антонія ў Боцьках (90 тыс. злотых будзе выдзелена на абнаўленне гістарычнай званіцы і агароджы касцёла XVIII стагоддзя), мужчынскі манастыр Дабравешчання Дзевы Марыі ў Супраслі (80 тыс. злотых на чацвёрты этап рэканструкцыі фрэсак XVI стагоддзя ў Дабравешчанскім храме), Ломжынская епархія (50 тыс. злотых на рэканструкцыю гістарычнага будынка каталіцкай пачатковай школы імя кардынала Стэфана Вышынскага і наступны этап працы ў будынку дыяцэзіі). Таксама мясцовыя ўлады і дзяржаўныя ўстановы атрымлівалі фінансаванне, у тым ліку Сейны на замену акон у ратушы, гміна Тыкоцін для кансервацыйных работ помніка Стэфану Чарнецкаму ці Ваяводская ўправа на кансервацыйныя работы ў палацы Гасбаха.

З праваслаўных храмаў падтрымку атрымаюць:

— Праваслаўная парафія Успення Багародзіцы ў Боцьках — на рамонт агароджы з галоўнай брамай пры парафіяльнай царкве: 80 тыс. злотых.

— Праваслаўная парафія Нараджэння св. Яна Хрысціцеля ў Пасынках — знешні рамонт парафіяльнай царквы: 86 тыс. злотых.

— Праваслаўная парафія Узвышэння Святога Крыжа ў Фастах — кансервацыя і рэстаўрацыя бакавога алтара (справа): 20 900 злотых.

— Праваслаўная парафія Іконы Багародзіцы „Усіх Засмучаных Радасць" у Такарах — рэстаўрацыя гістарычнагаківота ў царкве: 19 тыс. злотых.

— Праваслаўная парафія Успення Дзевы Марыі ў Дубінах — рамонт каменнай агароджы, пакрытай бетонным падаконнікам, заднымі каменнымі атынкаванымі бакавымі варотамі з боку царквы і ад вуліцы — заходняй і паўночнай сценах: 58 тыс. злотых.

— Праваслаўная парафія св. Мікалая Цудатворцы ў Тапільцы — першы этап рамонту знешніх лесвіц і фасада: 35 тыс. злотых.

(лук)

# «Вакацыі ў Доме Маці»

У краіне ўсё часцей і часцей чуецца, што турызм «не ажыве» падчас сёлетніх канікул. Да сёння існуюць строгія абмежаванні. Дзейнічае шэраг забарон і распараджэнняў, у тым ліку датычных памежнага кантролю. Ёсць пазначаны памежныя пераходы, дзе можна іх перасякаць і асобы, якія могуць іх перасякаць. Як правіла, усе асобы, якія прыязджаюць у Польшчу, павінны падпарадкоўвацца абавязковаму 14-дзённаму каранціну дома. Падчас памежнай праверкі кожны падарожнік абавязаны ўказаць адрас, дзе ён будзе пад каранцінам. Падобныя ці нават больш жорсткія прынцыпы абавязваюць у іншых краінах. Гэта адназначна перашкаджае турызму. Немалаважным з'яўляецца і страх захварэць пры прыняцці рашэння аб выездзе. А як выглядае медыцынская дапамога ў Польшчы?




Усё часцей чуецца таксама ў сродках масавай інфармацыі і ў размовах з сябрамі, што сёлета яны выбіраюць Польшчу на канікулы — малыя цэнтры далёка ад вялікіх груп людзей. Розныя віды ўчасткаў, дач і катэджаў карыстаюцца вялікім попытам.

У 19-м нумары часопіса «Tygodnik Powszechny» ад 10 мая 2020 года я з цікаўнасцю прачытаў артыкул Міхала Савінскага пад загалоўкам «Дом і свет». Піша ён там м.інш.: *Не трэба ехаць далёка — лакальнасць цяпер у цане, і ў бліжэйшыя месяцы і гады яе цана абавязкова павялічыцца. Вось чаму варта паглядзець вакол сябе, трохі пагрэбціся і пачытаць крыху — сапраўдныя цуды толькі чакаюць, каб іх адкрыць.*

Думаю, гэта тычыцца і нашага рэгіёна, Падляшша. Яно адпавядае ўсім умовам «пандэмічнага турызму». Вялікіх турыстычных курортаў тут няма (акрамя выключэнняў, вядома). Ёсць мноства дробных і чароўных «аграгаспадарак», размешчаных дзесьці на агульнавядомым канцы свету. Ці сюды прыедуць турысты, якія раней выбіралі «магічныя падарожжы жыцця»? Ці стане наша Падляшша яшчэ адной «чароўнай зямлёй», дзе мы можам *звар'яцець і ўзяць у арэнду халупу дзесьці ў экзатычным чатырохкутніку Беласток — Сямятычы — Гайнаўка — Саколка, атрымаць сапраўдны кантакт з меншасцямі, праваслаўем... Паездзіць ад вёскі да вёскі, пахадзіць, адкрываць царкоўкі, капліцы, прыдарожныя крыжы, выглядваць ласёў, а ўвечары сарганізаваць куліг на санях з вогнішчам і каўбаскамі. Праз некалькі дзён рушыць далей...* Аднойчы я прачытаў такі артыкул: «5 прычын чаму варта наведваць нас зімой. Зіма на Падляшшы», размешчаны ў рэгіянальна-турыстычным блогу пра Падляшша «Беласток суб'ектыўна». Прыехаць з вялікага горада. Рушыць па *маршруце па ўсходніх межах Польшчы, наведваць забытыя ўсімі вёскі.* Зрабіць крыху фотаздымкаў і, магчыма, нават напісаць кнігу, напрыклад, пад назвай «Партрэт правінцыі». Хіба Падляшша гэта не ўява «страчанага раю»? Там, дзе жыхары «беспакарана ядуць сытныя вяндліны» і п'юць «легендарную самагонку», «духа пушчы» і ўвесь час маюць душэўны спакой. Яны нават не баяцца каранавіруса! Ці ёсць яшчэ такія рэгіёны ў Польшчы ці ў Еўропе? Падляшша таксама моднае «шаптухамі». Я не буду пісаць пра гэта. Практычна ўсё ўжо напісана. Я не буду пісаць пра Белавежскую пушчу, Крушыняны, польскі арыент, лавачкі і іншыя атракцыёны...

Напішу пра дамы. Пра Дамы Нашых Маці. Неўзабаве Дзень маці. Я думаю, што шмат людзей з падляшскімі каранямі рушыць «у роднае старонне». Можа, доўга хацелі сюды прыехаць, штосьці адчулі, але неяк не было часу? Не было магчымасці. Можа, ёсць нейкая няскончаная сямейная размова? Магчыма, нейкія старыя фотаздымкі (альбо магілы на праваслаўных могілках, недалёка ад мяжы з Беларуссю) стануць своеасаблівым білетам на гэты шлях.

«Матчын Дом», мабыць, самы важны «геаграфічны» паказальнік у нашым жыцці. Мы трапім туды беспамылкова. У кожны дзень і ноч. Мы трапім туды праз палі, лугі ці лясы. Ці па вуліцах вялікіх гарадоў. Без сучасных „maps". Родны дом, хаця гэта краіна не толькі плывучая малаком. Бывала па-рознаму. Але рэцэпт хлеба з цукрам застанецца. Мне не трэба яго тут цытаваць.

Ведаю, што пасля розныя сайты запоўняцца фотаздымкамі старых дамоў з Падляшша. У мяне ёсць просьба, давайце зробім такую карту, такі нефармальны шлях памяці. Давайце станем перад нашым родным домам з надпісам #DomMatki-Mojej альбо #ДомМаціМаёй. Такі «шлях памяці пра падляшскія маці», наша маленькая асабістая гісторыя. Для кожнага з нас памяць маці, мабыць, самая важная. Гэта гісторыя, якая з'яўляецца фрагментам цэлага. Давайце пагаворым і з людзьмі. Давайце, не спяшаючыся. Паспеем.

## „Дом Маці Маёй,

Ён такі звычайны,
Што нават не сніцца мне ў снах
Хаця нібыта гэта добры знак,
калі прысніцца нам яго дах,
Гэты сімвал ставіцца да найбольшых каштоўнасцей,
вызнаваных чалавекам.
Моцны, трывалы дах з'яўляецца прыкметай моцнага
характар і паслядоўнасці ў захаванні маральных нормаў.
Трывалы дах сімвалізуе бяспеку і эмацыйную стабільнасць.
Ёсць у ім заўжды вада для піцця,
мыцця рук і твару,
І рэцэпт на хлеб з цукрам,
Просты стол і некалькі крэслаў,
За якім сядзіць яе штодзённая вера
«У што я магла б паверыць,
калі Вы ў чыстыя рукі свайго дзіцяці?»
І яго ніколі не зачыняюць на ключ,
Каб я мог прыйсці і сесці побач"

«Слова роднае, суме мудры! Радасць неўгамонная, што часам лунае вясёлкаю на небе краіны майго прызначэння. І няспешна павучаеш мяне жыць сваім розумам ды гасцінцам ісці шырокім праз годы ўсяго раз адзін дадзеныя. Ты, як той сябар шчыры, не пакінеш і ў няшчасці. Я табе толькі, слова ты маё беларускае, веру ды кланяюся. Бог ты мой! Ты мая рэлігія!» (Сакрат Яновіч).

Шкада, што не будзе розных Дзён Крынак, Гарадка, Нарвы і сотні іншых мясцовасцей. Мы не будзем знаёміцца з гэтай «мясцовай традыцыяй».

Будучыня, нават самая блізкая, усё яшчэ нявызначаная. Невядома, калі мы ўвогуле вернемся ў дапандэмічны свет. Безумоўна, турыстычная індустрыя — з яе масавым і фабрычным уражаннем — яшчэ доўга не адновіцца пасля крызісу. І мы нарэшце ўбачым, што кароткая вандроўка па ваколіцы можа быць больш цікавай, чым «паставўленне галак пры шматлікіх турыстычныя славутасцях», — як кажа Міхал Савінскі.

Дадам, што наша вандроўка па тэрыторыі і гісторыі нашых сем'яў можа быць самай цікавай у нашым жыцці. Можа таксама быць бясконцай!

Дарыюш ЖУКОЎСКІ

# «Пра Варшаўскую бітву ўсе ведаюць, але бітва на Нёмане не менш важная» — лічыць сябра Таварыства імя герояў Сакольскай зямлі **Кшыштаф Ошэр.**



**— На пачатку хачу павіншаваць ганарова вылучэння Бронзавым крыжам заслугі ад прэзідэнта Польшчы Анджэя Дуды.**

— Я крыху быў здзіўлены, бо таго не робіцца дзеля вылучэння. Адзнакі проста прыходзяць. Адзнакі — гэта вылучэнне за сукупнасць дзейнасці і прызнаюць іх людзі, якія сочаць за нашай працай.

**— Тваю дацанілі. Ты атрымаў Крыж па прапанове падляшскага ваяводы Багдана Пашкоўскага?**

— Так, заяву на ўзнагароду падаў ваявода па прапанове Групы Усход, з якой супрацоўнічае Таварыства імя герояў Сакольскай зямлі. Сябры з Групы Усход дайшлі да высновы, што дзейнасць, якую вядуць яны і асобы, якія з імі супрацоўнічаюць, дзейнічаюць у карысць нашай гістарычна-культурнай спадчыны.

**— Таварыства імя герояў Сакольскай зямлі — так гучыць поўная назва таварыства, у якім дзейнічаеш спачатку, з 2012 года. Ці жыхары Сакольшчыны, і не толькі, усведамляюць сабе факт, што так шмат маем герояў?**

— Спачатку гэта быў гістарычны клуб імя капітана Францішка Потыралы, але перамянілі клуб у Таварыства, каб можна было атрымліваць сродкі на шырэйшую дзейнасць. Не хочам нікога стыгматызаваць, не хочам засяродзіцца на нейкай адной групе. Мы памятаем усю нашу гісторыю і тых усіх, якія дзейнічалі ў карысць нашай супольнасці і паўплывалі на гэта, што жывём у такой краіне, якую маем зараз. Супрацоўнічаем з Інстытутам нацыянальнай памяці, але таксама з Музеем памяці Сібіры, таму стараемся прадстаўляць гісторыю на аснове дакументаў і навейшых доследаў, каб не прыхарошваць і не стыгматызаваць. Людзі не святыя! Нават нашы героі маюць хібы, як і мы. У адных сітуацыях яны могуць з'яўляцца козырамі, у другіх — дэфектам. Яны таксама мелі сваю ўяву дзейнасці, якія прыносілі розныя эфекты.

**— Аднак ёсць чым ганарыцца.**

— Так, гэта выключнае месца — спадчына ад ІІ Рэчы Паспалітай шматлікіх народаў. На Сакольшчыне апрача палякаў маем грамадзян розных нацыянальнасцей: беларусаў, літоўцаў, татараў (нашчадкаў ліпкаў). Астатніх пасяліў тут Ян ІІІ Сабескі, які зямлёй заплаціў ім за службу.

**— А яны ахвотна прынялі.**

— Так і ўзбагацілі нашу дзяржаву. Апрача таго жывуць тут прадстаўнікі розных канфесій: мусульмане, праваслаўныя. Яўрэі, якіх зараз няма, стварапі прыгожую частку нашай супольнасці.

**— Цяжка пра іх забыць, паколькі ў Сакольцы захавалася многа яўрэйскай архітэктуры.**

— Так. Нават і зараз ёсць шмат аб'ектаў, якія пакінулі яўрэі. Пачатковая школа № 2 паўстала на месцы ранейшай яўрэйскай школы. Недалёка была яўрэйская бажніца.

**— Ты атрымаў вылучэнне за шэраг сваіх акцый, між іншым, за папулярызацыю гісторыі Польшчы і арганізацыю падзей, якія ангажуюць цэлыя пакаленні. Тут напэўна варта ўзгадаць пра Эстафету незалежнасці, якая праходзіць штогод.**

— Нашай галоўнай падзеяй з'яўляецца Эстафета незалежнасці — ганаровы бег, які прысвячаецца героям бітвы на Нёмане. Была яна далейшай часткай Варшаўскай бітвы. Можна сказаць, што менавіта яна канчаткова завяршыла польска-бальшавіцкую вайну. Польшчы вярнулі незалежнасць, быў падпісаны Рыжскі дагавор і Польшча цягам дваццаці гадоў была свабоднай краінай. Адначасова гэтай падзеяй хочам паказаць, што памятаем пра ўсіх герояў, якія змагаліся за незалежнасць Польшчы на працягу стагоддзяў, пачынаючы з паўстання Касцюшкі ў 1794 годзе па паўстанне 1830-1831 гадоў, польска-бальшавіцкую вайну ці абарончую вайну 1939 года. Таму Эстафета — кожнае пакаленне передае другому тыя якасці, якія складаюць нашу культурную, гістарычную, нацыянальную і рэлігійную тоеснасць.

**— Бітва на Нёмане гэта перш за ўсё маршалак Пілсудскі, якога гадавіну смерці адзначылі мы 12 траўня.**

— Так, таго ж самага дня (12 траўня 1970 года) памёр таксама генерал Андэрс — адзін з сімвалаў польскай барацьбы ў час Другой сусветнай вайны.

**— У Эстафеце незалежнасці прымаюць удзел не толькі людзі з Польшчы, але і Беларусі, Украіны, Азербайджана, Расеі, Казахстана...**

— Не трэба забываць пра людзей з Гуфца імя Найсвяцейшай Дзевы Марыі Вастрабрамскай з Вільні, якія таксама заўсёды ўдзельнічаюць.

**— Таксама арганізуеш святкаванні прымеркаваныя да Дня выклятых жаўнераў.**

— Памятаем таксама пра ўсіх тых, якія змагаліся з чарговай акупацыяй — савецкай. Без увагі на палітычнае стаўленне, гэта былі патрыёты, якія змагаліся з немцамі, а пазней з саветамі, якія нас акупавалі.

**— Некаторыя гавораць, што камуністычная акупацыя была горшай за фашысцкую.**

— Нельга параўноўваць. Вайна гэта дрэнная справа. Адна і другая была нечым страшным.

**— Але тыя, якія пасля вайны пачалі „ствараць новую Польшчу", прычыніліся да гэтак званага Малога Катыня.**

— Так, гаворым пра Аўгустоўскую аблаву, якую ўшаноўваюць нашыя сябры з Гістарычнага клуба імя Арміі Краёвай у Аўгустове, ці спадарства Кашлеевы. Усё-такі яно павінна быць больш шанаванае грамадствам.

**— Жаўнеры польскай арміі пры Пілсудскім таксама сваіх ваеннапалонных дэмілітарызавалі і выпускалі. Як можна патлумачыць такі генацыд?**

— Так, польскія жаўнеры гэта былі людзі, якія ўзрасталі ў нейкіх якасцях і прынцыпах і прытрымліваліся іх. Былі і такія групы, якія прытвараліся польскімі вайскоўцамі. Трэба памятаць, што ў 1939 годзе тагачасны прэзідэнт Ігнацы Масціцкі аб'явіў амністыю і ўсе выйшлі з турмаў. Немцы, якія акупавалі Польшчу, занадта не ведалі, што адбывалася на вёсках. Не ведалі пра гэтых бандытаў, якія менавіта там арганізаваліся. Трэба памятаць, што ў час ІІ Рэчы Паспалітай былі вялікія праблемы з адукацыяй. Людзі не асіміляваліся, улады ІІ РП рабілі надта мала ў гэтай справе. Таму для новай камуністычнай улады гэта быў добры матэрыял для маніпуляцыі. Цяжка здзіўляцца, што людзі, якія не мелі тады магчымасці для кар'ернага росту, не хацелі асімілявацца. Вядома, цяжка каб чалавек, які не ведае мовы, працаваў пісьманосцам. Лічу, што ўлады ІІ РП у гэтым напрамку зрабілі замала.

**— Ты ўспомніў пра амністыю прэзідэнта Масціцкага, але новыя пасляваенныя польскія ўлады ў 1948 годзе таксама аб'явілі амністыю для польскіх жаўнераў, якія ваявалі ў АК і падполлі. Як аказалася, гэта быў нялюдскі абман.**

— Былі яны арыштаваны, рэпрэсаваны і забіты.

**— Тут таксама можна ўспомніць прозвішча аднаго з змардаваных жаўнераў, якога дзень народзін святкавалі мы 13 траўня, Вітольда Пілецкага, які здабыўся на параўнанне фашызму да камунізму.**

— Вітольд Пілецкі сказаў, што Аўшвіц (да якога пайшоў дабравольна і ўцёк адтуль) гэта была дробязь у параўнанні з камуністамі. Немцы фізічна ламалі людзей, але людзі верылі, што перажывуць, што працягваецца барацьба і чакалі вяртання Польшчы. Камуністы ламалі людзей таксама псіхалагічна, паказвалі, што іншыя для іх працуюць, што няма ніводнай надзеі і салідарнасці. Гаварылі, што сябры з войска, ужо на іх баку... Таксама было з Аўгустам Эмілем Фільдарфам, адным з найбольшых герояў Другой сусветнай вайны. Вяртаючыся да асобы Вітольда Пілецкага — ён у Аўшвіцы стварыў польскі рух супраціву. У часы, калі Пілецкага прыгаварылі да кары смерці, прэм'ерам Польшчы быў Юзаф Цыранкевіч, які таксама быў вязнем таго ж канцлагера. Аказваецца, што ён даносіў для СС. Таму Пілецкага забілі, бо ён проста пра гэтае супрацоўніцтва ведаў.

**— Страшна. Вяртаючыся да перамогі над бальшавізмам, сёлета будзем святкаваць сотую гадавіну бітвы на Нёмане. Ці плануеце ўжо ўрачыстасці, прымеркаваныя да гэтай даты?**

— Мы хочам зрабіць канцэрт, а таксама некалькі іншых мерапрыемстваў. Пакуль невядома, што з гэтага атрымаецца з-за сітуацыі з каранавірусам. Мы працуем і гатовы да арганізацыі. Мы бярэм пад увагу тое, што з-за эпідэміялагічнай сітуацыі трэба будзе ўсё адмяніць і правесці ў іншым тэрміне. Таму ўжо маем і аварыйны план, у рамках якога напэўна ўжо ў чэрвені адбудзецца „Прыпынак гісторыя" анлайн, дзе будзе можна даведацца, як выглядала сітуацыя людзей, калі бальшавікі наступалі на Варшаву. Тут адбыліся таксама інтэнсіўныя баі, асабліва пад Янавам. Мала хто пра гэта ведае. Наогул пра Варшаўскую бітву ўсе ведаюць, але бітва на Нёмане не менш важная. Варта гэта падкрэсліць і выкарыстаць для рэкламы нашага рэгіёна.

**— Таксама прадбачваецца ўдзел прадстаўнікоў суседніх краін?**

Спадзяёмся, але зараз цяжка нешта канкрэтнае сказаць. Падтрымліваюць нас таксама суседнія гміны, напрыклад Супрасль з бургамістрам Радаславам Дабравольскім. Шмат хто далучаецца. Спадзяюся, што і Ваша рэдакцыя таксама ўключыцца ў святкаванні.

**— Я напэўна. Дзякую за размову.**

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**

зорка
для дзяцей і моладзі



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# Міфы старажытных беларусаў

**РОСТАНІ:** На Падляшшы была такая варажба, якую з думкай пра будучага мужа выконвалі дзяўчаты ў Шчодры вечар. Яны ставілі сабе пад ложак пасудзіну з вадой і перакрывалі яе крыжнакрыж лучынай. Масток-перакростка імітаваў ростані дарог, па якіх меў прыйсці ў сне суджаны хлопец. Шмат нашых бабуль і прабабак верыла ў праўдзівасць гэтай варажбы!

— Гэта найпраўдзівейшая варажба, — гаварыла мне адна старажылка. — Я ўбачыла ў сне хлопца, з якім мы пасвілі авечак у дзяцінстве, а пасля пажаніліся.

Ростані для нашых продкаў былі важным каналам сувязі са светам памерлых. Гэты канал адкрываўся, паводле ўяўленняў народа, толькі ў поўнач і ў поўдзень, на Каляды і на Купалле.

Як сведчаць этнографы, яшчэ ў канцы XIX стагоддзя купальскія вогнішчы на ростанях палілі ў Орлі і Кляшчэлях. У маёй вёсцы Кутлоўка на Гайнаўшчыне такія вогнішчы палілі яшчэ ў 1960-я гады, у Шчодры вечар.



Беларуская сцэнка ў выканані вучняў з «праваслаўнай» школы ў Беластоку

Дзеля абраду скарыстоўвалі ўкрадзеныя раней брамкі нядобразычлівых гаспадароў.

У знахарскай магіі на ростані прыносілі ахвяраванні для нябачных сіл, якія мелі паспрыяць у лекаванні. Каб спыніць уплыў нячыстай сілы на хворага, трэба было апоўначы занесці «выкатаны» на целе хлеб, стаць там заклаўшы рукі за спіну і тройчы пакланіцца да зямлі пярэдняй і бакавой дарогам, прыгаворваючы: «Свет добрахот, хлеб-соль прымі, а раба Божага (тут называлі імя хворага) працi».

Адначасова ростані лічылі месцам звязаным з нячыстай сілай. Калі везлі дзіця да хросту, кумы пакідалі на ростанях гліну і соль. Гэта была ахвяра нячысціку і русалкам, каб яны не палохалі немаўляці ў сне.

Ростані, як ускраіну вёскі ці паселішча, нашы продкі ўспрымалі як мяжу «свайго» і «чужога» свету. Каля ростаняў чакалі гасцей, а пасля гасціны іх праводзілі ў тое ж месца. Гэтая практыка мела паспрыяць шчасліваму вяртанню дамоў.

На Падляшшы ростані звычайна пазначаны выявай ахоўнага крыжа, які аздабляюць жанчыны пад вялікія святы.

У нашых песнях і казках вельмі часта сустракаем матыў трох дарог, і яны ўвасабляюць ідэю выбару слушнай дарогі.

*(Адрэзак адрэдагаваны паводле «Міфалогіі для дзяцей» А. Коршак)*

**(гак)**

# Май — і пад кустом рай

Ой як злосцяць нас холад і даждж у маі! Ды ці павінны мы цешыцца толькі сонечнымі днямі? Нашы продкі, якія ў пачатку вясны прадказвалі ўраджай, са зразуменнем успрымалі надвор'е. Вось калі май быў халодны і мокры, людзі гадалі, што год будзе хлебародны. Ёсць нават прыказка: Мокры май — жыта як гай!

У прагназаванні надвор'я выдатна дапамагалі звяры. Калі прыляцелі птушкі і доўга не шчабяталі, людзі чакалі працяглых халадоў у маі. Таксама калі птушкі рабілі гнёзды з сонечнага боку, чакалі халоднага лета.

Прагноз на наступны дзень маглі падказаць кот ці сабака. Калі кот хаваўся на печку, значыла — ідуць халады. Цікавае назіранне з сабакам — калі набліжаецца холад, ён ляжыць скручаны, а калі ляжыць распрастаўшыся, раскінуўшы ногі — будзе цяпло.



Як не дзіўна, павер'і нашых продкаў-земляробаў, спрацоўваюць ва ўмовах вялікага горада. Пранізлівы холад, які завітаў да нас з пачаткам бягучага тыдня, паказвалі паводзіны сабачкі пароды йорк «Коліна». Перад надыходам халадоў ён скручаны ляжаў на канапе. Гаспадары спалохаліся — ці не захварэў іх цюцька-пястун? Але ж ветэрынар, да якога пазванілі за дапамогай, супакоіў. Паясніў, што сабака можа захутацца ў сваю поўсць і не праяўляць актыўнасці якраз на рэзкую змену надвор'я. Так сапраўды адбылося. На другі дзень павеяў халодны вецер са Скандынавіі і прыйшлі замаразкі.

А йорк «Колін», выканаўшы сваю «задачу», адразу ачуняў.

**(гак)**

# Бобік чарадзей

Выйшаў Бобік на ганак,
скрунуўся ў абаранак.
Кажам Бобіку: – Уставай,
на двары проста рай,
вушы ўверх, выбягай.
Кветкамі сыпнуў май.
Бобік у акно зірнуў:
«Бела!», і зноў пазяхнуў,
завінуўся ў клубок,
больш не гляне ў той бок.
У спінку холад забег.
Не цвет гэта, а снег!!!
Раматус у касцях,
дрогка ў лапах, аж страх!
Як сабака стары
загуляе ў двары?
Вопыт у цюцькі такі:
калі коле ў бакі,
нос у лапы хавай,
нат калі месяц май...
Душу ў поўсці сагрэць!
Пацяплее – дурэць!

Міра ЛУКША

# УВАГА КОНКУРС! № 21-2020

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 31 мая 2020 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Загадкі з роднай хаткі**

**Дзетак сваіх не гадуе,
нават гнязда не будуе,
звонка ў лесе гукае.
Што за птушка такая?**

*Васіль Жуковіч*

З.....

**Адказ на загадку № 17-2020: раса. Узнагароды, наклейкі, выйгралі Юля Хіліманюк і Агнешка Зінчук. Віншуем!**

# Эх экскурсіі, экскурсіі!

На зломе мая і чэрвеня многія школы запланавалі экскурсіі для паасобных класаў. Тыя далёкія — як паездкі на мора ці ў горы, ці тыя сентыментальныя — як экскурсіі ў Рэспубліку Беларусь, ці тыя тэматычныя — да цэнтраў адукацыі, музеяў, тэатраў. Планы, як вядома, не могуць здзейсніцца з-за эпідэміі каранавіруса. Але не трэба падаць духам! Многія паездкі перакладзены на час, калі пагасне эпідэмія і ўсё вернецца да нармальнасці.

— На вясну мы планавалі з'ездзіць з вучнямі ў Барысаўку, — кажа настаўніца Анна Лаеўская з Чыжоў. — Месца проста цудоўнае!

Што такое можна пабачыць у Барысаўцы — абязлюджанай вёсачцы на ўскраіне Белавежскай пушчы?

— Мы пазнаёміліся з забытымі прафесіямі і дакрануліся да драўляных прылад, якімі карысталіся нашы продкі, — апавядае настаўніца. — Але не толькі! Дзеці пабачылі як выглядала традыцыйная хата, самі пяклі бліны і дранікі, вучыліся выткаць на кроснах ходнікі, пілавалі дровы пілкай. На канец было вогнішча і песні, якія пад гітару сняваў уласнік пансіяната...

Паколькі нашы сябры наведалі аб'яднанне «Барысаўка — драўляная вёска», шмат увагі яны прысвяцілі дрэву. Гаспадар агратурыстычнай сядзібы распавёў ім пра пабыўкі рускага цара ў нашых старонках. Цар разам з сям'ёй прыязджаў на паляванні ў Белавежскую пушчу і гэта захавалася не толькі ў памяці людзей. Асталіся матэрыяльныя памяткі. Вось тая хата, у якой гасцілі чыжоўскія школьнікі, была пабудавана з дзерава, якое падараваў цар...

— Усе былі захоплены паездкай у Барысаўку, — кажа настаўніца, — таму мы рашылі туды вярнуцца. Але ж, вядома, з-за эпідэміі ўсё прыйшлося перакласці на будучы тэрмін.

Цягам апошніх гадоў ажыццявіліся паездкі ў Беларусь. Зараз найбольшы запал выклікаюць экскурсіі ў Берасце. Пра такую паездку апавядала нам настаўніца з Чаромхі Эліза Казімірук. Усе вучні былі захоплены горадам, гістарычнымі помнікамі, шпацырамі па вуліцы Савецкай, крамай „Князь Вітаўт" і гасціннасцю людзей. Брэст захапіў таксама вучняў беластоцкай школы свсв. Кірылы і Мяфодзія. У старажытным горадзе над Мухаўцом нашы сябры знайшлі партнёрскую школу і зараз рэгулярна ладзяць абмен. На жаль, з-за эпідэміі абмен часова прыпынены.

Падобную інфармацыю маем для энтузіястаў Сустрэч „Зоркі", якія адтэрмінаваны на восень. Інфармуем аднак, што тыя васьмікласнікі, якія актыўна супрацоўнічалі з газетай, нягледзячы што будуць ужо ў ліцэі, атрымаюць запрашэнні...

Таму нельга наракаць і падаць духам, бо з часам усё вернецца на кругі свае.

**Зорка**



Удзельнікі XXXIII Сустрэч Зоркі

# Беларускі салат «Папараць-кветка».

Прапанова для тых, хто сумуе па экскурсіі ў Берасце. З рэгіёнам неад'емна звязаны салат з магічна-лясным назовам. Страву прапануюць многія рэстараны і кавярні ў Берасці і рэгіёне Белавежскай пушчы. Тады падрыхтуйце салацік і пасмакуйце разам з сямейкай.



І раскажыце родным пра сваю апошнюю паездку ў Беларусь. Пакуль закрыты межы, нам трэба абысціся смакам!

Складнікі:

— 200 грам ялавічыны,
— 200 грам вяндліны,
— 2 памідоры,
— 3 салодкія агуркі,
— 1 цыбуля
— 1 сталовая лыжка воцату,
— 200 грам маянэзу.

Цыбуліну ачысціць, нарэзаць кольцамі, прамыць пад струменем халоднай вады, адціснуць ваду, паліць воцатам. Вараную ялавічыну, вяндліну, памідоры і агуркі парэзаць саломкай, да іх дадаць марынаваную цыбулю, змяшаць і прыправіць маянэзам. Паставіць у лядоўню на 30 хвілін, каб страва «пераелася».

Смачна есці

*Арыгінальны рэцэпт паводле «Беларускай кухні» Юры Качука.*

**Зорка**

## Польска-беларуская крыжаванка № 21-20

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 17-2020:**

Нюх, шпінат, пух, дастатак, метал, тэлефон, малюнак, альт, Ніна, соль, партал. Прынцэса, малы, дэталь, гатэль, салют, тлен, Іна, фанатык, Трокі, Ніл, такс, шал.

Узнагароды, беларускія наклейкі на камп'ютарную клавіятуру, выйгралі **Юля Грыгарук** і **Алівія Федарук**. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Wiosna | | | | | | Cud | | Sergiusz | |
| | | | | Ściana / Morze | | | | | |
| Kula | | Woda | Duch | | Ural | | | | |
| | | Deszcz / Pocałunek | | | | | | Obrączka | |
| Bierz | Burza | | | | | | | | |
| Kucharek | | | | | | | | | |
| Blask | | | | | | Grom | | | No |
| | | | | | Żart | | | | |




# Мой шакалад



**Ірэна ЛУКША**
*Гайнаўка*

Гэта здарылася пяцьдзясят гадоў таму. Была я тады пяцігадовай дзяўчынкай. Вельмі любіла есці салодкае і ўсё прасіла, каб купілі мне шакалад.

Тады быў іншы час. Мала хто купляў шакалад. Быў ён дарагі. Шакалад у жоўта-чырвонай упакоўцы каштаваў дваццаць пяць злотых, шакалад у сіняй — дзевятнаццаць злотых і восемдзесят грошаў. Нават хросныя бацькі ў святочным падарунку не давалі шакаладу — куплялі кілаграм фруктовых цукерак.

Дваюрадны брат маёй бабулі жыў у Гданьску і раз у год прыязджаў у водпуск. Калі нас адведваў, то даваў мне ў падарунку дзве пліткі шакаладу, малыя шакаладкі, цукеркі, пірожнае і апельсіны.

Некалькі гадоў на адным панадворку ў нас жыла сям'я з пяці асоб. Сястра суседкі жыла на захадзе Польшчы. Зімой прыехала на два тыдні да іх у госці. Сваім пляменнікам прывезла вялікую торбу розных ласункаў. Было там смакоцце, якога я ў вясковай краме ніколі не бачыла. Хлопцы і дзяўчаты гэта елі, мяне не пачаставалі.

Было мне вельмі сумна. Я хацела, каб прыехаў дзядзька Ваня і прывёз мне ласункі. Урэшце рашыла, што мама мне зробіць шакалад. Сказала аб гэтым маме.

— Што ты выдумала? — засмяялася мама. — Шакалад робяць на фабрыцы. Дома ніхто чагось такога не зробіць.

Тое ж самае сказала мне і бабуля. Схавалася я пад стол і ад бяссілля заплакала. Пасля прыпомніўся мне расказ адной жанчыны, якой дачка працавала на фабрыцы шакаладу. Яна казала мне, што з розных складнікаў робіцца маса, якую доўга мяшаюць, пасля машына фармуе шакалад і яго сушаць, завіваюць у золатка і паперу. Я рашыла, што сама зраблю шакалад. Назаўтра папрасіла я тую дзяўчыну, каб сказала мне пра тыя складнікі.

— Слухай: цукар, мякіш какавы, тлушч з какавы, тлушч малочны, лецытын. Многа ты зразумела з гэтага?

Рашыла я, што калі хатнія пойдуць да ўправунку, я зраблю масу і пакладу сушыць у печку. Праз два дні будзе шакалад! Калі даведаюцца гаспадыні, што я зрабіла шакалад, то напэўна ўсе з вёскі схочуць мой рэцэпт! Не ведала я, што гэта быў тлушч какавы і лецытын. Малочны тлушч па-мойму гэта было масла. Я не спала ўсю ноч. Чакала, калі мама з бабуляй устануць і пойдуць да ўправунку. Урэшце прыйшоў той час! Калі толькі мама і бабуля выйшлі з дому, я ўзялася за работу. Дастала з шафачкі зялёную міску, у якой рабілі цеста на аладкі. Замест лецытыну я рашыла ўсыпаць жытняй і пшанічнай мукі. У міску я насыпала цукру, какавы, масла, пшанічную і жытнюю муку, парашок для пячэння, уліла малако, смятану. Усё гэта размяшала на аднародную масу і паклала на паперу, на якой сушылі макароны сваёй работы. Пасля тронкам лыжкі зрабіла ў масе раўкі, як на шакаладзе. Хутка памыла міску, выцерла і зноў паставіла ў шафачку. Усе прадукты паставіла на сваё месца. Пасля каля печкі паставіла лаву, на лаву крэсла, на крэсла столачак. Узяла паперу з масай, па такой «драбіне» ўзлезла на столачак і паклала паперу са сваім шакаладам сушыць на печку. Лаву, крэсла і столачак паставіла на месца. Згасіла святло і задаволеная легла спаць. Толькі паспела легчы, мама з бабуляй вярнуліся з управунку.

— Неяк дзіўна, — азвалася мама. — Здавалася мне, што памыяў для свіней было менш, а іх больш стала.

— Ты там помніш, колькі іх было, — адказала бабуля. — Хутчэй мяшай свінням цеста і нясі карміць. Зараз трэба варыць есці і свінням бульбу.

Я заснула. Спала так моцна, што ледзь прабудзілі мяне на снеданне. Пасля снедання я зноў легла спаць. Дарослыя падумалі, што я можа захварэла.

Гэта было ў пятніцу. У суботу раніцай мама пачала рабіць вялікія парадкі. І калі махнула анучкай па вярху печкі, дык мой шакалад з паперай паляцеў на падлогу. Калі я глянула на свой выраб, амаль не заплакала. Гэта не быў шакалад, а засохлае цеста з раўкамі.

— Ой, Божа мой! — крыкнула мама.
— Што гэта такое?! Мама, ці гэта не вы паклалі яго на печку?

— Не, — адказала бабуля. — Гэта хтось паклаў на нейкія чары!

Пачалі ўспамінаць, хто ў нас быў на працягу тыдня і хто найбольш мітусіўся каля печкі. Мяне ніхто не падазраваў. Я не прызналася. Калі б прызналася — было б дрэнна! Білі б мяне паскам, або паставілі б мяне на каленкі, што столькі ўсяго змарнавалася!

Мама ўкінула мой шакалад у печку, дзе яшчэ гарэлі дровы, і стала з бабуляй на калені ды доўга маліліся. Пасля сказалі: «Што хто задумаў, няхай яму будзе!»

І было.

У панядзелак вечарам прыйшла жонка сваяка. Прынесла вялікі кавалак шакаладнага блёку свойскага вырабу.

— Ведаеце, — сказала яна, — калі мой Ваня паехаў у камандзіроўку ў Варшаву, то прывёз мне кухонную кніжку. Я спыталася ў яго: «Ці я дрэнна вару? Чаму ты мне купіў такую кіжку?» Ён мне адказаў, што вару я добра, але калі прачытаю кухонную кніжку, то можа штось новае прыгатую з ежы. У пятніцу ён пайшоў на начную змену, я чытала кніжку ад пачатку і знайшла рэцэпт на шакаладны блёк. У суботу спекла дзве бляхі. Адну хутка з'елі, а другую ўжо не так. Гэты кавалак застаўся. Я рашыла вам прынесці пакаштаваць і даць рэцэпт, дык самі спячэце.

Мама з бабуляй і сваячкай пайшлі пасядзець у пакоі. Бабуля хацела забраць блёк у пакой, але мама не дазволіла. Пакуль дарослыя гаварылі, я з'ела ўвесь блёк. Калі сваячка пайшла дадому, мама ўзяла нож і хацела адрэзаць сабе кавалачак блёку.

— Я ўжо ўсё з'ела, — паведаміла я.

— Што? — крыкнула мама. — Як гэта так?!.

— Я хацела забраць блёк з сабою, ты не дазволіла, то цяпер не пакаштуеш ані кавалачка, — засмяялася бабуля.

— Калі ты такі кавал уперла, то будуць цябе чэрві есці! Хто ж гэта бачыў, столькі салодкага з'есці! — закрычала на мяне мама.

— Калі прыйдзе вясна, я буду есці палын, дык чэрві мяне не будуць есці. Я думала, што дарослым устыдна есці салодкае, — стала я меркаваць па-свойму. — Я думала, што салодкае толькі для дзяцей. Дарослыя могуць есці толькі пірог.

— Якое неразумнае дзіця! — зноў закрычала на мяне мама. — Ці ты зможаш пракаўкнуць той палын? Ён цябе да ванітаў давядзе. Салодкае можна есці ўсім. Цяпер ты з-за свайго лакомства можаш цяжка захварэць!

Я вельмі спалохалася. Стала плакаць. Бабуля падышла да мяне і ўзяла мяне на рукі.

— Не плач, — сказала. — І больш так не рабі. Памятай, што салодкае не наедак і ад лішку салодкага можна захварэць.

У хваробу я не верыла. Салодкае лічыла самай смачнай ежай ва ўсім свеце.

Пра свой няўдалы выраб я расказала маме, калі майму старэйшаму сыну было пяць гадоў. Тады мая бабуля ўжо не жыла. Мама смяялася з маёй наіўнасці і дзівавалася, што пяцігадовая дзяўчынка змагла штосьці такое выдумаць.

— Настрашыла ты нас тады, — прызналася мама. — Мы думалі, што хтось хацеў нас знішчыць. Калі б ты тады прызналася, дастала б паскам і папастаяла б на каленках!

За сваё жыццё наелася я шакаладу і іншых ласункаў. Цяпер паўтару за бабуляй, што салодкае — не наедак і можна адхварэць лішак саладосці.

# Баба на возе



**Надзея КАРЧЭЎСКАЯ**
*Беласток*

У 2017 годзе спрабавала я апісаць сваё жыццё — колькі можна перанесці жалю, болю, але з Божаю дапамогаю ўдалося перажыць мне восемдзесят гадоў. Пільную ва ўнучкі праўнука, а праўнукаў маю іх усіх адзінаццаць, у тым ліку чатыры праўнучачкі!

У 1959 годзе выйшла я замуж. А калі ад'язджала ад роднага дому да мужавай радні, а было да іх дзесяць кіламетраў, мама блаславіла ікону Маці Божай і дала яе мне ў рукі. Селі з рэчамі на воз. Па дарозе конь панёс і фурман, выпіўшы і нявысланы, вывернуў воз. Усе з воза павыпадалі. Я трымала блаславёную ікону, і падаючы, прытуліла яе да сябе, каб не пабілася. І хоць я ў жыцці жыву ўжо на пятым месцы, ікона да сёння пры мне.

Другі раз паехалі мы санкамі на Руздво да хрэсту. Фурман сядзеў на казялку і час ад часу адварочваўся да кумоў, загаворваў. На павароце вывернуліся санкі. Кум упаў першы, я на яго, але дзіця моцна прытуліла да сябе і з рук не выпусціла. Фурмана з санкамі пацягнуў конь за сабою, людзі з царквы ішлі, каня спынілі. Я іду з дзіцём і кумам, людзі падыходзяць да нас і кажуць: «Кума малайчына, мы бачылі, як вы падалі, шчасце, што немаўля з рукі не выпусцілі». Кажу, я шчаслівая, бо дзіця цэлае, усё Божая воля. Вярнуліся з хрэсту, усё бацькам расказала, што нас спаткала ў дарозе. Якая радасць была ўсім! І з хросніка я задаволена — вырас, стаў прафесійным вайскоўцам, ужо на пенсіі...

У 1987 годзе ў нашы бакі прыехаў рэдактар «Хлопскай догі» Лех Жыцкі. Вельмі спадабалася яму наша старонка, казаў — такая экалагічная. Прасіў, каб я закватаравала ў сябе яго знаёмую, пані доктар Ганну Дваракоўскую. Мы з мужам ахвотна згадзілася, бо з 1969 года я цяжка хварэла на запаленне суставаў. Лячылася ў Беластоку, але не адчувала сябе найлепш. Тая доктар прыехала да нас, абследавала мяне. Сказала, чым маю сілкавацца, штодзень маю з'есці некалькі зубкоў часнаку — ён рэгулюе ціск і памагае пры прастудзе. Накіравала мяне ў санаторыю ў Свінавусце. Гэта было ў студзені 1987 года, у вельмі марозную зіму. Цягнік прыехаў спознены. На стаянцы таксі машын ужо не было, бо стаялі толькі да 23 гадзіны. Я ў шоку — баба з вёскі, сама ў чужой старане, сярод марознай ночы! Як сабе даць рады? Бачу, паліцыя едзе. Спыніла я машыну, паказваю ім дакументы, накіраванне ў санаторыю, прашу дапамогі. Паліцыянты ўсадзілі мяне ў машыну, завезлі пад санаторыю. На прыёмнай свяцілася святло, іграла радыё так, што чуваць было на вуліцы. Нікому не прыйшло ў галаву, што санаторыя зачыненая. Паліцыя ад'ехала. Я падышла да дзвярэй будынка, званю, стукаю. Ніхто не выходзіць. Пахадзіла я гадзіну вакол будынка, моцна змерзла ў ногі. Бачу, ідуць два жаўнеры ў польскай форме. Падышла я да іх, расказваю па-польску, што мяне спаткала пасярод ночы, паказала ім свае дакументы ды накіраванне ў санаторыю. Жаўнер адказаў, каб я не баялася, яны спрабуюць мне дапамагчы. Адзін жаўнер пераскочыў праз бетонны плот і праз кацельную ўвайшоў у будынак санаторыі, пайшоў на прыёмную. Вярнуўся, кажа, што там нікога няма. Іншага выйсця не будзе — перакінем паню праз плот. Так і зрабілі — падсадзілі мяне праз тую агароджу, адзін жаўнер пайшоў са мною. Прайшлі мы праз кацельню, трапілі ў прыёмную. Тады жаўнер кажа: «Вы не бойцеся, тут вы ўжо бяспечная. Калі прыйдзе сторож, вось і спалохаецца»! Я сардэчна падзякавала жаўнеру, ён пайшоў. Гляджу — стаіць тапчанік. Села на ім, адпачываю, задрамала. Праз гадзіну чую — хтось ідзе. Калі сторож увайшоў і ўбачыў, што на тапчане сядзіць кабета, крыкнуў «О-ёй!» і пабег назад. Праз некалькі хвілін бачу — ідзе кіраўнік у піжаме, з вялікім сабакам. «Добры вечар» — кажа. Я адказваю: «Добры вечар, але я некалькі гадзін таму думала, што замерзну ў чужой старане». — «А якім цудам вы дасталіся ў зачынены санаторый!?» Паслухаў майго аповеду, праверыў мае дакументы. У стоража спытаўся: «Дзе вы былі, што прыёмная была зачынена?» Сторож тлумачыўся, што пайшоў быў у другую санаторыю, фільм паглядзець, бо тут працуе толькі радыё. «Маеш шчасце, што трапілася нам такая кемлівая асоба, што так добра дала сабе рады. Бо калі б з ёю штосьці сталася, адказвалі бы мы за яе!»

Кіраўнік узяў мяне пад руку і сказаў: «За вашу адвагу і за ўсе тыя перажыванні выбярэм пакой для вас найлепшы, які у нас ёсць». Я была вельмі задаволеная маім пакоем. Калі прыбылі ўсе, хто меў накіраванне ў гэты санаторый, сустрэліся мы ўсе на агульным сходзе, каб выбраць старосту і старасціну. Кіраўнік кажа: «Старосту выбірайце, але я прапаную сваю старасціну». Сказаў маё прозвішча, расказаў пра мае прыгоды з пасяленнем. Я адказалася — быўшы старасцінай калісь у Цехацінку, ведала, што на гэтай функцыі шмат работы. Падзякавала за ўшанаванне, але я стомленая і хворая ды хачу тут проста адпачыць.

Выехаўшы з санаторыі, мела прыемнасць спаткаць у Варшаве доктар Ганну Дваракоўскую. У яе кабінеце сустрэла рэдактара Леха Жыцкага. Расказала я ім пра свае прыгоды. «З такімі прыгодамі дык можна інфаркту сэрца дастаць, а вы жартуеце!» — смяяўся рэдактар.

Ва ўсім Божа воля, што ўсё шчасліва канчаецца.

# На радзіму пусціць не хацелі

Міхал МІНЦЭВІЧ

На тэму Другой сусветнай вайны напісана даволі многа. Тэмай менш заўважнай астаецца сам канец вайны і лёс жыхароў Усходняй Польшчы, якія спачатку былі прымусовымі работнікамі ў Германіі, а пасля былі забраны ў Чырвоную Армію. Бралі ўсіх — праваслаўных, католікаў ды жанчын. Канец Другой сусветнай вайны прызваным у Чырвоную Армію ды таксама цывільным не абазначаў выхаду на свабоду і вяртання ў родны сямейны дом. Пастараюся коратка прыблізіць тэму на аснове запісаных мною фрагментаў успамінаў.

* * *

**Мікалай МУРАЎКА** (19.12.1924-05.06.1999) з Крывятыч у 1941 годзе, калі прыйшлі немцы, трапіў на прымусовыя работы ў Прусію, у Іаганесбург (сёння Піш). 19 верасня 1944 года, калі разам з іншымі рабочымі капаў акопы каля Каўнаса, вызвалілі саветы. Адразу адправілі на зборны пункт, а 17 верасня выслалі на фронт. Браў Кольна, а ў Торуні быў паранены гранатнымі асколкамі ў абедзве нагі. Шэсць дзён змагаўся за Гданьск і ў час гарматнага абстрэлу быў моцна паранены ў спіну. Пасля шпіталя стан здароўя не дазваляў адправіць яго ў „стралковую службу" і прызначылі яго ў „камандзіроўкі" — ездзіў з рознымі даручэннямі ў Казань, Свярдлоўск і іншыя гарады. 11 снежня 1945 года Мікалая Мураўку дэмабілізавалі, але загадалі шукаць сям'ю ў... Савецкім Саюзе. Нармальна вярнуцца на бацькаўшчыну ў Польшчу не мог. Вось як успамінаў мне ў 1998 годзе:

— На пропуску было пазначана, што адпраўляюся ў Беласток. На вакзале касірка стала крычаць, што „в Польшу не даём билетов". Я быў без дакументаў, забралі мне нават чырвонаармейскі білет, а без пропуску і білета тады папросту немагчыма было падарожнічаць. Вырашыў я неяк перахітрыць касірку. Вярнуўся я да згаданай касы і стаў пераконваць жанчыну, што яна памыляецца, бо Беласток знаходзіцца не ў Польшчы, але ў Расіі і што я адсюль атрымліваю лісты. Жанчына доўга ўглядалася ў карту СССР і... выпісала мне білет.

На пероне напароўся я на энкавэдзістаў. Праверыўшы пропуск і білет сталі папракаць: „Что, не нравится тебе Россия?", а на канец загадалі мне шукаць сям'ю ў Савецкім Саюзе і адаслалі назад. Пахадзіў я трохі каля станцыі, потым вярнуўся і дамовіўся з адным машыністам, што перавязе ён мяне на лакаматыве ў Ваўкавыск. Адсюль я думаў перайсці граніцу пехатою, але добрыя людзі асцерагалі мяне, што пагранічнікі могуць мяне застрэліць. У Ваўкавыску сустрэў я галодных жанчын з маіх ваколіц; у мяне былі харчовыя талоны і я падзяліўся з імі ежай. Потым дабраўся я ў Бераставіцу, дзе сустрэў польскіх афіцэраў, якія вярталіся ад сваіх сем'яў з Вільні. Хацелі яны забраць мяне з сабою, але адмовіліся, калі аказалася, што ў мяне няма адпаведных дакументаў. У адчаі некалькі разоў ішоў я проста на граніцу, але мяне лавілі і адвозілі на машыне на пагранзаставу. Мне хацелася дабрацца дадому, у Польшчу, але там гэтага не разумелі.

У рэшце рэшт трапіўся мне людскі чалавек — звычайны лейтэнант, якому хацелася курыць, а ў мяне былі папяросы. Даваў я яму дзвесце штук, але ён узяў толькі палову, выпісаў адпаведны пропуск і перавёў мяне цераз службовы пераход на граніцу. Савецка-польскую мяжу перайшоў я тыдзень пасля выезду з Кірава. Дабраўся я неяк у Беласток, але цягнік у Бельск-Падляшскі ўжо адышоў. Прыйшлося чакаць наступнага поезда цэлыя суткі, галодаму, бо тут на савецкія талоны нельга было нічога атрымаць.

На другі дзень падставілі чатыры таварныя вагоны і адзін пасажырскі для афіцэраў. Мне пашанцавала трапіць у вагон з афіцэрамі. З Бельска ў Крывятычы ішоў я пехатою. Калі дайшоў да роднай хаты, сям'я ўжо спала. На працягу двух тыдняў трэба было абавязкова з'явіцца ў РКУ — ваенкамат. Там агледзелі мае раненні і адпусцілі дадому.

* * *

**Аляксандра ЕКАТЭРЫНЧУКА**, жыхара Бельска-Падляшскага, народжанага ў 1922 годзе ў Старым Сяле, немцы ў сакавіку 1942 года вывезлі на прымусовыя работы ў Сядліска каля Элка ва Усходняй Прусіі, у цагельню. Пасля дзевяці месяцаў з пяццю іншымі ўцёк дадому, але данёс солтыс і ён трапіў у штрафлагер у Бельску. Пасля атрымання цялеснай кары зноў трапіў у тую ж самую цагельню. Пад немцамі быў да 21 студзеня 1945 года — тады прыйшлі саветы. Так успамінаў мне ў 2000 годзе:

— Рускія адразу прызвалі нас у савецкую армію. Яны не разбіраліся хто праваслаўны, а хто католік. Помню жудаснае здарэнне, калі п'яны капітан без прычыны застрэліў з пісталета маіх калег з цагельні — Сцяпана з Беларусі і Бандарука.

Даставілі нас у Арнэту на зборны пункт. Былі там тысячы навабранцаў. Калі апранулі нас у ваенную форму, то адзін аднаго не пазнавалі. Сталі мы наступаць на Кёнігсберг. За кіламетр дарогі змагаліся мы цэлы дзень. Горад занялі ноччу, удзень успыхнулі вулічныя баі. З 10 на 11 красавіка 1945 года я атрымаў раненне ў ягадзіцу. Адаслалі мяне ў шпіталь у Інстэрбургу (цяпер Чарняхоўск). Лячылі мяне там месяц. 7 мая 1945 года, акурат пад канец вайны, адаслалі мяне ў Бабруйск для далейшай ваеннай службы. Там паставілі мяне майстрам пры будове баракаў. Аднойчы прыехала з Брэста лекарка ў званні лейтэнанта, якой патрэбны былі дваццаць салдат; удалося мне ўпрасіцца ў ейны атрад.

У Брэсце было нават добра. Адзін капітан вельмі любіў палякаў і назначыў мяне сваім сувязным. Мы пасябравалі і ён хацеў мяне пусціць у водпуск у Польшчу. Тройчы даваў мне пропуск, але са станцыі адсылалі мяне назад. Урэшце сказалі: „Ещё раз придёшь, такой ты, тогда тебя и твоего командира посадим". І мой капітан на гэта сказаў: „Ну, эти черти сделают это" і паслаў мяне ў водпуск на цэлы месяц да сваёй маці сто кіламетраў за Маскву. Два разы ездзіў я туды, трэці раз з капітанам. Там былі тэкстыльныя фабрыкі і я купіў аж сто пар панчох. Увесь заробак прагулялі мы з капітанам; весела было.

У Польшчу адпусцілі мяне ў 1946 годзе. На Каляды быў я ўжо ў Беластоку.

* * *

**Аляксандр КУБАЕЎСКІ** з Орлі (17.12.1920-17.07.2004) пасля вяртання з працы ў сібірскіх шахтах быў забраны на прымусовыя работы да нямецкага гаспадара сорак пяць кіламетраў ад Кёнігсберга. Пасля апынуўся ў лагеры ў Рашыне над самім морам. Вось так успамінаў мне ў 2000 годзе:

— Калі набліжаўся фронт немцы рашылі нас расстраляць. Загналі нас у акопы, але знячэўку прыляцелі савецкія самалёты і гэта нас выратавала. Калі сярод выбухаў дабраліся мы ў лагер, там ужо былі рускія.

20 красавіка 1945 года забралі нас з лагера і ўключылі ў ваенную часць. Кармілі нас дрэнна — тры разы ў дзень давалі куццю. Аднойчы салдаты забілі бусла і некаторыя яго елі. У арміі быў я „першым нумарам станковага кулямёта". Праз нейкі час пасля прысягі павезлі нас на Чорнае мора, пад турэцкую граніцу; частку салдат павезлі на вайну з Японіяй.

Вайна закончылася, але мяне не дэмабілізавалі. 24 студзеня 1946 года перавялі мяне ў 22 брыгаду сапёраў, якая базіравалася ў Нальчыку на Каўказе. Там было мне добра, працаваў шаўцом. Гэтую работу я добра ведаў, бо да вайны вучыўся ў найлепшага арлянскага шаўца Валодзькі Рынгайлы. Калі аднаму сяржанту зрабіў я туфлі і доўгія боты, то за гэта ўзнагародзіў ён мяне дзвюма навюткімі амерыканскімі вопраткамі. Кармілі там добра. Пазнаёміліся з тамашнімі дзяўчатамі, з якімі можна было ладзіць забавы; аднойчы гулялі нават на Новы год.

Прыходзіць аднойчы маёр і пытае:

— Товарищь Кубаевский, не хотите поехать домой?

— Чаму ж не! — адказаў я.

Адправілі мяне спярша ў Мінеральныя Воды, а пасля ў Стаўрапаль. Там выдалі мне дакумент, у якім было напісана, што рашэннем савецкіх улад я дэмабілізаваны 5 ліпеня 1946 года. Далі мне таксама медаль „За победу".

* * *

Успамін **Уладзіміра ЗДАНОВІЧА** з Орлі (16.09.1921-30.08.2007), запісаны ў 2003 годзе:

— У 1943 годзе немцы забралі мяне на прымусовыя работы ў Германію. Быў дзесь недалёка Голдапа, у нямецкага гаспадара Пазляка на калёніі Сталішын. Са мною працавалі палякі, расейцы, літоўцы і французы. Калі набліжаўся фронт, немцы пачалі масава ўцякаць. Рабілі такія буданы на вазах. Дарогі былі страшэнна забітыя, усюды толькі плач, крык, енк і што толькі хочаш. Пад канец лютага 1945 года перанялі нас саветы і прызвалі ў армію.

Памятаю, што перад кожным наступленнем давалі нам па сто грам гарэлкі і потым: „А ну, ребята, вперёд!" Удзельнічаў у здабыванні Берліна, быў і далей на захадзе, аж па самую амерыканскую лінію. Потым, у маі 1945 года перакінулі наш батальён у Прагу. Адтуль гналі мы 150 тысяч нямецкіх палонных. На аднаго салдата прыпадала пяцьдзясят палонных для пільнавання. Штодзённа праходзілі мы пяшком па пяцьдзясят кіламетраў. Нямецкія палонныя думалі, што вызваляць іх пасля заканчэння вайны. Аднак грузілі іх у вагоны і вывозілі на ўсход, адбудоўваць Расію, як гаварылі.

Пасля заканчэння вайны мусіў я яшчэ праслужыць у савецкім войску. Пасля года мяне звольнілі, але дадому, у Польшчу, не пусцілі. Намаўлялі, прапанавалі мне астацца ў Савецкім Саюзе. Улады ўсяляк ускладнялі выезд. Толькі ў чэрвені 1946 года ўдалося мне неяк вярнуцца дадому, у Орлю.

* * *

З **Канстанцінам ЗАБРОЦКІМ** са Збуча (1924 года нараджэння) гутарыў я летам 1998 года, незадоўга да яго смерці. Ён — ветэран Другой сусветнай вайны, вярнуўся дадому толькі ў палове 1947 года. Расказваў:

— Калі пачалася вайна, мне было 15 гадоў. Пасля прыйшлі саветы і апусцелі паліцы магазінаў. Пры немцах працаваў я пры будове шашы і гэта на нейкі час адтэрмінавала маю вывазку на прымусовыя работы. У маі 1944 года вывезлі мяне ва Усходнюю Прусію, у вёску Крайс Элцкага павета. Там я ў баўэра даглядаў коней, а пасля, калі наблізіўся фронт, капаў акопы каля Сейнаў.

У студзені 1945 года, уцякаючыя перад савецкім наступленнем немцы цягнулі за сабою прымусовых работнікаў. У Ольштыне працаваў я ў фірме, якая гандлявала апалам. Перад баямі за горад пагналі нас у напрамку Гданьска. На шашы паўстала вялікая таўкатня. 24 студзеня каля Моранга перанялі нас саветы. Калі б я тады сказаў ім, што я паляк, яны адпусцілі б мяне дадому. А я прызнаўся, што я беларус і мне сказалі: „Ого, напас ряшку немецким мармеладом, сукин сын, а мы воевали!" Сярод ночы адправілі нас у асобае аддзяленне на допыты, дзе да нас ставіліся па-зверску: палохалі пісталетам, лаялі нас. Але як чалавек перайшоў тое асобае аддзяленне, тады ўжо было лягчэй.

Пасля сагналі нас у Гогеншштэйн (сённяшні Альштынак), у былы лагер для савецкіх ваеннапалонных. Было там нас пад дзесяць тысяч прымусовых работнікаў розных нацыянальнасцей, у тым ліку палякі і французы. Выйшаў афіцэр і пытае: „Кто в РОА служил? Нет? Мы найдём таких изменников родины". А да мяне кажа: „По тебе видно, что было плохо; ряшка кирпича просит". А я папросту быў чырвоны на твары.

У лагеры знайшоў я хлопцаў з нашых старон: з Зубава, Пасынак, Мякішоў, Курашава. Трымаліся мы разам. На другі дзень адчынілі браму і выпусцілі групу палякаў: „А вы, полячки, ступайте в свою Польшу, там с вами разберутся", — сказалі ім на развітанне. А нас, чалавек пад трыста, сабралі, стварылі 146 запасны полк і сталі абучаць. Далі толькі пятнаццаць вінтовак для вартаўнікоў і некалькі дзён гналі нас, яшчэ беспрысяжных, уперад. Потым спынілі нас у лесе і выстраілі ў шарэнгі. Пад'ехалі дзве машыны з узбраеннем. Раздалі нам вінтоўкі і прынялі прысягу.

чытайце ☞ 10

9☞ працяг

# На радзіму пусціць не хацелі

Кожны салдат атрымаў 250 штук патронаў, пяцізарадную вінтоўку са штыком, 3-4 гранаты і трохі сухароў на дарогу. Папоўнілі мы 48 армію генерала Чарняхоўскага, якая ваявала ў складзе 3 беларускага фронту. Наступалі мы на Браўнсберг (цяпер Бранева), а з 7 на 8 лютага акружылі Кёнігсберг. Здавалася, што ў гэтым горадзе няма жывой душы. Удзень з акопаў мы бачылі як хвалі самалётаў, адна за адной, бамбілі горад, а ноччу відаць было толькі зарыва пажараў. 24 лютага, 2 кіламетры ад Кёнігсберга, я атрымаў раненне, і то ў такое месца, што сам не бачыш і другому не пакажаш — у ягадзіцу. Апынуўся я ў шпіталі ў Морангу і быў там да 1 красавіка. Пасля дзесяць дзён правёў я ў батальёне для тых, што папраўляюцца. Калі вярнуўся ў сваю часць, там ужо былі новыя камандзіры і новыя салдаты. Кёнігсберг быў ужо ўзяты.

Рыхтавалі нас кінуць на Віслінскую касу, куды немцы дабраліся яшчэ па лёдзе. Мне хацелася наступаць па сушы, бо здавалася, што калі не паб'юць, то патопяць. 28 красавіка падкінулі нам амуніцыю і ноччу мелі мы пайсці ў атаку. Але спачатку пайшлі два батальёны марской пяхоты, а нас пагрузілі ў рыбацкія баржы і завезлі ў Пілаў (цяпер Балтыйск), дзе саветы занялі Земланд (Самбію). Адтуль па пантоннай кладцы дабраліся мы на касу. Немцы моцна абараняліся. Ужо Берлін быў узяты, а мы яшчэ штурмавалі Віслінскую касу. Камандзір узяў мяне за пасланца і 7 мая асколак трапіў мне ў лоб. Заліўся я крывёю і трапіў у шпіталь у Эльбланг, дзе прабываў да 20 мая.

Два гады, да 25 мая 1947 года служыў я на тэрыторыі Савецкага Саюза. Служыў я ў Асіповічах, Мінску, Бабруйску, Гродне. Служба доўжылася і здавалася, што не да, а дваццаць гадоў прайшло. Салдаты галадалі і мне марылася наесціся ўдоваль чорнага хлеба і бульбы, калі вярнуся да бацькоў. А на радзіму пусціць мяне не хацелі.

Тры ці чатыры разы пісаў я прашэнне ў Маскву, у польска-савецкую мешаную камісію па справах эвакуацыі. Толькі пасля таго, як бацька даслаў з Орлі спраўку, што я паляк, мне дазволілі вярнуцца ў Польшчу.

З Гродна паехаў я ў Баранавічы, затым у Брэст. Калі дабраўся ў Гайнаўку, меў я пры сабе кавалак чорнага салдацкага хлеба. Хацелася есці, аднак падумалася мне, што можа дома таксама не стае хлеба. І завёз я хлеб дадому, але аказалася, што не было патрэбы. Пакроіў я яго на кавалкі і пачаставаў ім усіх дамачадцаў.

* * *

Лёсы многіх жыхароў Беласточчыны, якія трапілі на прымусовыя работы ў Германію, а пасля былі прызваны ў Чырвоную Армію і ўдалося ім перажыць вайну, былі яшчэ больш складанымі і трагічнымі.

Расказваў мне 2 верасня 2017 года **Аляксандр КАРОЛЬКА**, 1933 года нараджэння, пенсіянер з Ласінскага прыхода:

— Адзін з Кляшчэляў расказваў мне, што калі прызнаўся саветам, што быў на прымусовых работах у Германіі, то яшчэ дзесяць гадоў працаваў для рускіх. А іншага не адпускалі ў Польшчу, не адпускалі, і зусім не пусцілі.

Адзін з Крыніцы расказваў мне: Было гэта зараз пасля заканчэння вайны. Паехаў ён зімою санямі ў Гайнаўку ў млын, змалоць збожжа ў Шумскага. І малоў там аж да поўначы. Вярнуўся на падворак, адкрыў дзверы ў клуню, а конь не хоча ісці, адно храпе. „Хто тут ёсць? — спытаў ён, — зараз вазьму вілы і буду шукаць у сене". Адазвалася маладая дзяўчына: „Дзядзьку, то мы, дзяўчыны. Нас тры, мы ўцяклі цераз граніцу ад рускіх. Хацелі нагрэцца, усё было закрыта, то мы ў вашу клуню, у сена залезлі. Адвязіце нас адсюль". Аж плачуць, просяць каб зараз. То гаспадар з тым грузам завярнуў каня і падвёз іх пад Ласінку, пад царкву. Вярнуўся ён дадому, выпраг каня, напаіў, зайшоў у хату і стаў есці. А тут грукат у акно: „Хозяин, открой. Это мы, пограничники". Мелі вайсковага сабаку і той сабака скача каля таго месца, дзе былі жанчыны — на сані. Кажуць: „Адвёз!" А той не прызнаўся. „Ну, калі б сабака ўмеў гаварыць, то ты на Сібіры пахадзіў бы дзесяць гадоў!" І столькі. А тыя жанчыны, як самі прызналіся гаспадару, былі ў Германіі на прымусовых работах і гналі адтуль у Расію кароў, і ўцяклі, — сказаў Аляксандр餐餐餐餐Каролька.

Запісаў і апрацаваў
**Міхал МІНЦЭВІЧ**




**http://dyskut.org.tilda.ws**

Нішто так не трэніруе здольнасць даказваць сваю думку і адстойваць сваю пазіцыю перад апанентам, як спрэчка. І гэта зусім не так важна, скончылася спрэчка — падагульненнем „нікому нічога не дакажаш" альбо выйсцем на агульнае паразуменне. Даносіць да апанента аргументавана сваю думку — гэта мастацтва, якому, калі ім не валодаеш ад нараджэння, трэба вучыцца. І адным з месцаў, дзе такое навучанне будзе праходзіць з максімальнай эфектыўнасцю — дэбаты.

Звычайна дэбаты, якія прыцягваюць найбольшую ўвагу людзей, — гэта тэлевізійныя перадвыбарчыя спрэчкі палітыкаў. Праўда, гэта тычыцца тых краін, дзе ёсць публічная палітыка і да ўлады можна прыйсці, зацікавіўшы неабходную колькасць выбаршчыкаў сваёй праграмай ці абяцаннямі больш лепшага жыцця, чым гэта робяць тваe палітычныя праціўнікі. Беларускай краіны гэта не тычыцца — у ёй не можа быць сапраўдных палітычных дэбатаў, таму што няма палітычнага жыцця і палітычныя ідэі не канкуруюць паміж сабой.

Разам з тым людзям уласціва абмяркоўваць тыя ці іншыя праблемы, нават калі гэтыя праблемы існуюць толькі ў іх свядомасці. Асабліва гэта тычыцца маладых людзей, якія хочуць данесці свой пункт погляду да як мага большага кола грамадскасці. І нягледзячы на тое, што на палітычныя тэмы разважаць асабліва не ўдаецца, хапае праблем, якія абмяркоўваюцца на дэбатах. Для гэтага і ствараюцца разнастайныя дэбат-асяродкі і дэбат-клубы, дзе можна спрачацца, нават не будучы спецыялістам у пытанні, пра якое вядуцца спрэчкі.

Адным з такіх дэбат-клубаў можна назваць „Дыскут" — ініцыятыва для папулярызацыі публічных дыскусій сярод моладзі. „Удзел у дэбатах дапаможа вам абараніць сваё меркаванне, супрацьстаяць маніпуляцыям і запэўніваць іншых. Пагадзіцеся, гэта карысны навык у рэальным жыцці", — распавядаецца на старонцы дэбат-клуба ў Facebook. Што ж тычыцца сайта, на якім можна зарэгістравацца і прыняць удзел у дыскусіі, то ён знаходзіцца па адрасе **http://dyskut.org.tilda.ws**.

Стваральнікі «Дыскута» запэўніваюць, што іх дэбаты гэта не проста гульня, а сяброўская супольнасць, якая заўжды побач. Так гэта ці не можна вызначыць, хаця б адзін раз прыняўшы ўдзел у дыскусіі.

Паводле размешчанай на сайце інфармацыі, гэтыя дэбаты пачаліся ад сярэдзіны сакавіка і працягваюцца дагэтуль. Праўда, апошнія з-за пандэміі каранавіруса пераведзены ў анлайн-рэжым. Для не мінскіх патэнцыйных удзельнікаў дыскусій гэта нават лепей, бо пры моцным жаданні ўдзелу няма патрэбы кудысьці ехаць. Што ж да майскіх размоў, то тэмамі іх вызначаны: „Ці трэба дазволіць клянаванне чалавека?", „Ці варта дазволіць эўтаназію ў Беларусі?" і „Ці патрэбна поўная легалізацыя агнястрэльнай зброі?".

Зразумела, што для бакоў, якія падчас дэбатаў адстойваюць той ці іншы пункт погляду, важна перамагчы ў спрэчцы. Пераможцаў называе журы, якое складаецца з шасці асоб. Інфармацыю аб іх можна знайсці ўнізе цэлага выяўлення. Праўда, вызначаны яны новамоднымі псеўдабеларускімі словамі, якія, магчыма, не кожны адразу зразумее, — „чальцы" і „чаліні" („чаліні" — тое ж самае што „чальцы", толькі жаночага роду). Аднак тут нічога не паробіш, бо гэта проста мода на фемінітывы і барацьба са словамі, якія чамусьці лічацца русізмамі.

**Аляксандр ЯКІМЮК**



Дата з Календара

# 90 гадоў з дня нараджэння Галіны РУСАК

Беларуская мастачка Галіна Русак нарадзілася 24 траўня 1930 г. у Навагрудку. Паходзіла з сям'і беларускіх настаўнікаў Філарэта Родзькі і Веры Гулевіч. У 1944 годзе сям'я была змушана эміграваць у Нямеччыну. Родны брат Галіны Усевалад Родзька быў кіраўніком Саюза беларускай моладзі, працаваў пры немцах у цывільнай адміністрацыі, таму давялося ратавацца ад саветаў і пакінуць радзіму. Галіна пасля вайны жыла ў лагерах для перамешчаных асоб. Вучылася ў нямецкіх Марбургу і Фрайбургу, а пасля ў Лювенскім універсітэце ў Бельгіі, з якім звязаны лёс многіх беларусаў-эмігрантаў.

У ЗША Галіна Русак пераехала ў 1949 г., калі ёй было 19 гадоў. Вучылася ў Канектыкуцкім каледжы. Ступень магістра гуманітарных навук атрымала ў прэстыжным універсітэце Ратгерс у Нью-Брансвіку, штат Нью-Джэрсі. З гэтым універсітэтам звязана сваё прафесійнае жыццё — стала дырэктаркай бібліятэкі на аддзяленні мастацтвазнаўства. Русак была сябрам арганізацыйнага камітэта вялікіх беларускіх фестываляў у Нью-Джэрсі напрыканцы 1970-х гадоў, якія вітаў прэзідэнт ЗША і якія далі штуршок маладому пакаленню амерыканскіх беларусаў падтрымліваць культуру продкаў.

Галіна Русак была сябрам Згуртавання беларускіх мастакоў і майстроў у Нью-Джэрсі. Выявіла сябе як цікавая, арыгінальная мастачка-жывапісец. Найбольш характэрныя матывы ў яе творчасці — старажытны геаметрычны ўзор і яго пераапрацоўкі ў беларускім народным мастацтве, а таксама краявіды. Галіна Русак пісала: „Моц і цудадзейнасць Прыроды істотна ўплывала на станаўленне майго светапогляду. Маё разуменне жыццёвых каштоўнасцей сфармавалася на падставе непасрэднае сувязі з фізічным атачэннем, а таксама пад уздзеяннем міфаў і легенд, бабуліных песень і казак, праз адметную ролю знакаў і сімвалаў, што адвеку выкарыстоўваюцца жанчынамі ў ткацтве, вышыўцы, ганчарстве".

Галіна Русак удзельнічала ў шэрагу выстаў супольна з іншымі беларуска-амерыканскімі мастакамі. Паказвала свае карціны ў многіх галерэях Нью-Йорка, неаднаразова яе творы экспанаваліся ў Канадзе. У 1992 г. у найлепшы ў Беларусі час творчасць Галіны Русак прадставіў Нацыянальны музей Беларусі ў Мінску. Выстава мела сімвалічную назву „Вяртанне". Беларусь прысутная ў многіх пейзажах мастачкі („Буслы ў палёце", „Курган", „Папараць-кветка"), нават калі там, на першы погляд, адлюстравана Амерыка. Згукі далёкае Радзімы гучаць у яе творах „Еўфрасіння Полацкая", „Голас продкаў", „Пагоня"... „Як мастачка, — пісала Галіна Русак, — я зацікаўленая ў перахоўванні сімвалічнай мовы Беларусі і ў пашырэнні яе сродкамі сучаснай мастацкай тэхнікі паміж гледачоў замежжа".

Галіна Русак наведала Беларусь у пачатку дзевяностых, карыстаючыся кароткім перыядам свабоды, дэмакратызацыі і звароту да нацыянальных каштоўнасцей у Мінску. Тыя, хто яе ведаў, успамінаюць і адзначаюць беларускасць гэтай сям'і. У доме Галіны і Васіля Русакоў у горадзе Сомэрсэт панавала шчырая гасцінная атмасфера, у іх бывалі шматлікія людзі з Беларусі і Беласточчыны, якія з розных прычын апынуліся ў Амерыцы. У доме была надзвычай цікавая калекцыя індзейскай керамікі.

Памерла Галіна Русак у 70-гадовым узросце ў Сомэрсэце 14 верасня 2000 года. Пахавана на беларускіх могілках у Іст-Брансвіку.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Завілістая рака Нараўка



Люблю ціхую пушчанскую раку Нараўку. Яна непадалёк маёй роднай вёскі Новае Ляўкова Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Найчасцей лавіў я рыбу ў ёй на адрэзку ад чыгуначнага жалезнага моста каля вёскі Плянта да бетоннага моста каля вёскі Падляўкова. Блізка чыгуначнага моста рака завілістая ды там-сям з высокімі і крутымі берагамі. Зараз вады ў ёй дастаткова. Пра гэта паклапаціліся бабры з самай ранняй вясны. Мо яны прадбачвалі, што будзе засуха. Цяпер вядуцца ў рацэ і дзікія качкі, і рыба. На гэтым кавалку ракі ёсць глыбокія ямы. Мы ведаем, бо ўлетку тут купаемся. Зараз вудзільшчыкі ловяць тут пераважна плотак-чырвонапёрак.

Быў я над рэчкай 28 красавіка гэтага года і сустрэў вудзільшчыка з Падляўкова. Ён наглядаў за мной, як я падыходзіў, то адыходзіў убок ад рэчкі і калі я наблізіўся да знаёмага мне мужчыны з суседняга сяла, ён спытаў, чаго шукаю. Я адказаў, што зацікавіла мяне бязводнае старарэчышча Нараўкі ў густых і высокіх зарасніках. Можа ён помніць, як раней плыла рака. Ён мне расказаў пра мінулае гэтай нізіннай ракі. Было гэта ў часы паншчыны. Больш-менш з гэтага месца ваду былі накіравалі туды, дзе выкапалі канал і вада паплыла ў напрамку вадзянога млына. Багаты ляўкоўскі памешчык меў вось тут на двух узгорках дворскія будынкі, а ў старарэчышчы — глыбокія рыбныя ставы (варта дадаць, што два з іх існуюць па сённяшні дзень). Некаторыя панскія будынкі падыходзілі аж да самой ракі, між іншым, лазня і замацаваныя да яе драўляныя скрыні на свежа злоўленую рыбу. Да двара было цяжка падступіцца з-за акружаючых дрыгвяністых балот. Апрача таго сядзіба была абгароджана высокім драўляным частаколам. Пра гэта расказваў майму субяседніку ягоны дзед.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

# На цэнтры вёскі

Больш за 800 тысяч злотых атрымаюць на дзейнасць сельскія святліцы і цэнтры вёсак у гміне Міхалова. На пасяджэнні 28 красавіка Управа Падляшскага ваяводства выдзеліла 2,5 мільёна злотых за кошт Рэгіянальнай аператыўнай праграмы Падляшскага ваяводства на шэсць праектаў, прадстаўленых у рамках мясцовых груп дзеяння. Два з гэтых шасці праектаў будуць рэалізаваны Міхалоўскай гмінай.

Першы прадугледжвае падтрымку сем'яў, пашыраючы прапанову чатырох сельскіх святліц Гміннага цэнтра культуры ў Міхалове (Бандары, Юшкаў Груд, Ялоўка, Шымкі), другі — трох сельскіх святліц гэтага ж цэнтра культуры (Геранімова, Саколе, Новая Воля). Мэтавая група праекта — дзеці і моладзь з малазабяспечаных сем'яў, а таксама іх бацькі, якія маюць цяжкасці ў выкананні функцый догляду і выхавання. Спецыялісты будуць дапамагаць ім на месцы. Таксама будуць праводзіцца дадатковыя заняткі, напрыклад, па замежных мовах, мастацтве, прыродзе, музыцы, інфарматыцы і шахматах. Кошт гэтых праектаў — 888 тысяч злотых. Суфінансаванне з РАППВ складае 826 тысяч злотых. Гэта ўжо чарговыя сродкі, атрыманыя для функцыянавання сельскіх цэнтраў у гміне Міхалова.

Нагадаем, што сельскія цэнтры пачалі дзейнічаць у сярэдзіне мінулага года. Інавацыйны праект мяркуе функцыянаванне сельскіх цэнтраў у шасці мясцовасцях Міхалоўскай гміны: у Ялоўцы, Шымках, Бандарах, Юшкавым Грудзе, Новай Волі, Геранімове і Саколі, дзе акрамя культурнай прапановы, як для маладых, так і для старых, найбольш патрабуючыя дапамогі жыхары змогуць разлічваць на дапамогу г.зв. «залатой ручкі» — дапамогу ў дробным рамонце дома, пры інструкцыі па эксплуатацыі абсталявання, дастаўцы лекаў, пакупках. У кожным з сельскіх цэнтраў працуюць тры чалавекі: два інструктары — культурна-асветніцкі і сацыяльна-культурны ды гаспадарчы работнік «майстар залатая ручка».

Сродкі для фінансавання цэнтраў паступаюць з розных крыніц, але пераважную большасць складаюць еўрасаюзныя сродкі.

**(лук)**

# Вечарам у вёсцы

Край неба, дзе зайшло сонца, блішчыць шырокаю чырвонай стужкаю. Тонкія лёгкія хмаркі ў агністай пазалоце. Туман лёгкай пуховай падушкай павіснуў над балацявінай. Пасвяжэла, запахла нагрэтай за дзень зямлёю. А сінія прыцемкі ўсё гусцеюць і гусцеюць і закрываюць ад вачэй і поле, і лес.

Вёска заціхае, тухнуць агні. Затоеная цішыня дрэмле ў чорных акулярах аканіц. Кажаны вылецелі са сваіх месцаў, дзе сядзелі ўвесь дзень. Круцяцца, падаюць на ніз і зноў падымаюцца ўгору і цыркаюць тоненькім піскам. За сялом, на балоце закрахталі жабы. У гняздзе пад страхою зашчабяталі ластаўкі.

Акіян цішыні ў бярозавым завулку. Таямніча зашамацела яблыневае вецце. Надрэчныя лозы нешта шэпчуць патаемна. Ёсць нешта дзіўнае і важнае ў гэтым вечаровым спакоі. У такую пару варта выйсці з хаты на вуліцу і пасядзець на лавачцы да ночы, падыхаць свежым паветрам. Ах як люба. **(яц)**

# Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — пагаворку.

1. мужчынскі голас = 11 _ 24 _ 13 _;
2. злучае аглоблі з хамутом = 18 _ 5 _ 25 _ 26 _;
3. бальзаміраваны труп чалавека = 20 _ 19 _ 27 _ 28 _ 12 _;
4. кітайская сталіца = 14 _ 15 _ 16 _ 17 _ 23 _;
5. высушаная трава = 8 _ 10 _ 9 _ 7 _;
6. кровапралітная бітва = 4 _ 22 _ 6 _ 21 _;
7. бельская гербавая жывёла = 1 _ 3 _ 2 _.

**(ш)**

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | | 5 | | 6 | 7 | 8 |
| 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | |
| 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 17 нумара**

Егер, капа, Мічурын, пень, пожня, посах, Сож, суп, урок, уюн, хадж, цеста, чып, Шо.

Рашэнне: **Часта першая жонка прыносіць поспех мужчыне, а поспех другую жонку.**

# 24.05 — 30.05

**(22.03. — 20.04.)** Занадта не высільвайся, бо і так гэтага не дацэняць. Асабліва не кідай усяго на адзін фронт. Знойдзеш спосаб на кожную турботу. Блісне мастацтвам пераканання, умеласцю прыхільвання да сябе людзей, самаўпэўненасцю. Нават калі цябе хтосьці пакрытыкуе — нічога! Пераканаешся да асобы, з якой быў далёка. Пільнуй здароўе, калі наракаеш на сэрца.

**(21.04. — 21.05.)** Будуць працэнтаваць задумы на будучыя інвестыцыі, шанцы на кар'еру ў месцы, якое не прымаў ты раней да ўвагі. 24-28.05. добра скочыш на рынак. Не бярыся за найважнейшыя жыццёвыя справы, каб пасля не шкадаваць. Хоць творча справішся з кожнай праблемай. Можаш мець клопат з суставамі і пазваночнікам. Суцішышся, супакоіш эмоцыі, здабудзеш здаровую дыстанцыю да сябе і свету.

**(22.05. — 22.06.)** Будуць перашкоды і крыху хаосу, але справішся дзякуючы дапамозе. Не фаварызуй нікога з сям'і. Інтарэс, які цяпер пачнеш, прынясе немалыя прыбыткі. Знакаміты настрой. 26.05. нейкая справа загразне ў мёртвым пункце. Не дагаворышся з некаторымі людзьмі. Няблага ў фінансах. Можа цябе турбаваць страўнік. На балконе ці ў агародзе зрабі зёлкавы агародчык.

**(23.06. — 23.07.)** Будзеш сентыментальным і крыху раздражнёным. За тваю шчодрасць зрэваншуюцца сябры 27-29.05. Не пакідай пачатых спраў. Лепш не выбірайся ў падарожжа. Час нялёгкіх размоў. Можа вагацца настрой. Пераканаешся, што варта было старацца.

**(24.07.—23.08.)** 24-28.05. магчымыя расчараванні ў каханні. Могуць цябе падвесці таксама некаторыя сябры. Пераканаешся, што вакол цябе трапляюцца людзі, якія могуць табе прынесці шкоду. Справішся з роляй кіраўніка, арганізатара, менеджара. Можа паявіцца эмацыянальная напруга, пільнуйся, каб не параніць галавы. Але чыясь памылка стане для цябе крыніцай натхнення і навядзе цябе на геніяльныя ідэі.

**(24.08. — 23.09.)** Шмат паспяховых выпадкаў — так у прафесійным, як і ў пачуццёвым жыцці. Затое цяжка будзе паафармляць розныя планаваныя службовыя справы, бо можаш нарабіць памылак, прапусціць нейкія важныя дэталі. Добры час на каханне, ратунак для пары, у якой не было ўжо перспектыў. 27-29.05. варта прадставіць сваю палавінку радні. Выявіш поўню сваіх талентаў.

**(24.09. — 23.10.)** Дасягнеш таго, што хочаш. Паспяхова выкарыстаеш свае таленты і ўмеласці. 24-28.05. цяжка табе будзе дагаварыцца з жанчынамі. 27-29.05. прыйдуць да цябе добрыя весткі ад сваякоў. Твая недаверлівасць і падазронасць папсуюць стасункі з атачэннем. Можаш пазнаёміцца і пасябраваць з кімсьці з вельмі далёкага месца. Пі прэпараты з магніем, еж шакалад і зялёную гародніну, харчуйся рэгулярна.

**(24.10. — 22.11.)** Не страчвай пільнасці. Пакажаш уражлівы бок тваёй натуры. Магчымыя сардэчныя і кампанейскія складанасці. Баявы настрой пакіне цябе. Скарпіёны I дэкады могуць апынуцца ў немалых турботах з работай. 24.05-28.05. будзе нагода каб зрабіць штосьці шалёнае. Час немалых прафесійных поспехаў. Будзеш ісці напралом, дасягнеш чаго хочаш. Можа памагчы табе сям'я, атрымаеш кампенсацыю ці нейкі дар.

**(23.11. — 22.12.)** Нагоды новых кантактаў, таксама на працы ці ў школе (можаш пазнаёміцца з асобай, з якой будзеш у сяброўстве шмат гадоў). Надта прыемныя хвіліны з каханай асобай, аднак прыдалася б крышынка самакрытыцызму. 27-29.05. можаш апынуцца ў шпіталі, зважай на косці свае і тваіх блізкіх. Але можа гэта быць і раддом!

**(23.12. — 20.01.)** Будзеш сумленны, працавіты. Ідэальны час на здзяйсненне амбіцый, асабліва прафесійных. 24-28.05. не замыкайся ў сабе, не разграбай сваіх праблем, боязей. Не ўваходзь у сувязі, пра якія вядома адразу, што кончацца паразай. З 28.05. твой дом можа стаць месцам сустрэч перш за ўсё на сайтах. Да 30.05. цяжка будзе паладзіць справы прафесійныя і хатнія. На працы поспехі. Праекты прынясуць эфекты, каса напоўніць твой рахунак.

**(21.01. — 19.02.)** Знойдзеш новае поле для актыўнасці. Але тваё сэрца будзе не здабытае. 24-28.05. узмоцніцца твая крэатыўнасць. Грошы паплывуць струменем. Будзеш вельмі схільны да залюблення. Будзеш удзельнічаць у рэлігійных рытуалах, хутчэй анлайн. Пільнуй здароўя, лячы зубы.

**(20.02. — 21.03.)** Жыццё цікавейшае, поўнае выклікаў і прыгод, хай і на старонках кнігі. Упарадкуй дакументы, а адкрыеш, на чым зможаш зарабіць ці зэканоміць. Могуць табе шкодзіць непрадуманыя, імпульсіўныя рашэнні. Сюрпрызы, якім можа не будзеш рады. Лепш не бярыся за сур'ёзныя справы. У апошнія дні мая будзеш аўтарам шматлікіх творчых змен. Падатлівыя на хваробы цяпер у цябе пячонка і лёгкія.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7⁰⁰ – 18⁰⁰.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# Лён

Мая першая „сур'ёзная" праца была на калгасным полі ў Міхнаўцы — восенню 1953 або 1954 года. Вучняў, бадай усіх класаў, са школ у Ляўкове і Лешуках прызвалі на дапамогу тадышнім пачынаючым калгаснікам рваць лён. А вучні, нават наймалодшыя, не былі ў той час навічкамі ў сельскагаспадарчых работах, у тым ліку і пры ўборцы лёну. Лён рос тады на палетках у кожнай гаспадарцы і дзеці змалку знаёміліся з гэтай асабліва важнай раслінай...


Ткацкі станок у жырардаўскім музеі


Тут быў бельскі льнозавод

Лён суправаджаў людзей з незапамятных часоў. Ужо Біблія ў сваёй другой кнізе „Выхад" згадвае пра яго. Сёмай плягай, якую спаслаў Бог на фараонаву дзяржаву, быў град: „Лён і ячмень былі пабіты, таму што ячмень выкаласіўся, а лён выпускаў пупышкі. А пшаніца не пабіта, бо спела пазней...". Шмат пра яго і ў іншых месцах Пісання. Бо лён здаўна разводзілі па ўсім Блізкім Усходзе, у тым ліку ў дэльце Ніла, у Палесціне, у Малой Азіі. З лёну ткалі аблачэнні святарам. У лён загортвалі муміі фараонаў...

Ільняныя вырабы нясуць і сакральную нагрузку, для прыкладу культавы ў беларусаў ручнік. Янка Крук: „Ручнік — спадарожнік чалавека не толькі ў важных святочных падзеях, але і ў штодзённых жыццёвых турботах. Для таго, каб смела зірнуць на сонца, чалавек перш-наперш *змываў* сон — тонкае покрыва начнога палёту ў абсягі вечнасці — і лашчыў твар ручніком-уціральнікам. Перш чым сесці за стол, трэба было падзякаваць Богу за дараванае жыццё і долю. Позірк чалавека быў скіраваны ў чырвоны кут, а там, пад столлю, пад хатнім небам, знаходзіўся лік Творцы Сусвету і быў ён пакрыты бялюткім ручніком — адмысловым тварэннем рук чалавечых".

У льняных тканінах чалавек адпачывае; лён дзейнічае на нас як здаровы, зялёны лес і чыстая вада. Нейтралізуе шкоднае ўздзеянне радыяцыі, не электрызуе і не прычыняе алергіі. Яго ўздзеянне — супакойваючае, асвяжаючае. Лён прапускае паветра, ён гіграскапічны і прыязны асяроддзю. Дзейнічае бактэрыцыдна — даўней прымянялі яго для абвіўкі ран і ў сыраварнай вытворчасці. Льняныя тканіны не збягаюцца, не камацяцца, яны ўстойлівыя на рванне: льняная нітка ўдвая мацнейшая за такой жа таўшчыні баваўняную нітку і ўтрая за ваўняную. У льняной пасцелі арганізм шпарчэй рэгенеруецца. Лён звышчасовы, а льняныя тканіны з'яўляюцца сімвалам элегантнасці і выгады. Ды і насенне лёну мае гаючыя якасці, яно ўзмацняе абалонкі арганічных клетак, у ім рэчывы, якія супрацьдзейнічаюць пухлінам грудзей, прастаты і тоўстай кішкі, супрацьдзейнічаюць запаленню крывяносных сасудаў, стабілізуюць ціск крыві, лагодзяць язвы страўніка, аблягчаюць страваванне...

У Блакітнавокай лён займаў самае ганаровае месца. Ці той блакіт ад азёр, ці ад васількоў, ці ад лёну? Мабыць, усе гэтыя фактары склалі такую менавіта сімвалічную афарбоўку Беларусі. Адзін з беларускіх парталаў: „Калі зацвітае лён, поле стаіць блакітнае-блакітнае, нібы неба. А як жа з яго атрымліваецца тканіна на кашульку? Усе працэсы, звязаныя з апрацоўкай сыравіны і падрыхтоўкай яе да ткання, выконваліся ўручную — звычайна гэта была жаночая работа. Вельмі важнай культурай для беларусаў быў лён. На тэрыторыі Беларусі лён быў вядомы, па дадзеных археалогіі, у другім стагоддзі да нашай эры. У канцы XIX — пачатку XX стагоддзя лён быў распаўсюджаны па ўсёй тэрыторыі Беларусі. Вырошчвалі лён у кожнай сялянскай гаспадарцы".

Не дзіва, што ў фальклоры і паэзіі нашых песняроў лён вабны, лён суправаджае каханне. З народнай творчасці: „Доўга, доўга я з вечара сяджу,/ Тонкі белы кужалёк праду./ Часта, часта праз аконачка гляджу./ Я думала: ясен месяц ўсходзіць,/ Ажно мой міленькі каля аконка ходзіць".

Янка Купала: „Як на поле, на зямлю/ Прыйшла раніца вясны,/ Я пасеяла ў раллю/ Жмені зёран ільняных./ Неба сеяла цяпло,/ Цёплы дожджык церушыў,/ Ў думках радасна было,/ Беглі песні ад душы./ Як расці стаў, як падрос,/ Як лісткі ўзняў дагары, / Лён палола з ранніх рос/ Да вячэрняе зары./ Сэрца ныла, бы з нуды,/ Бы сама была не ўся, / Спадабала я тады/ Брыгадзіра Міхася./ Як адцвіў ды як надзеў/ Лён галоўкі на сябе,/ Быў не горш, як у людзей,/ Мела шчасце я ў сябе./ Рваць ішла яго ў снапы,/ Пела песні аб вясне,/ Брыгадзір лічыў капы,/ Час ад часу моргаў мне...".

Ларыса Геніюш прывязвае лён да сардэчнага хвалявання: „То ня сонца пазалотай/ пакацілась на загон,/ то ня ўвосень ля балота/ загарэўся пышны лён./ То ня косы распусьціла/ сабе дзеўка па плячох,/ то ня хвалямі густымі/ льецца жыта у палёх./ То ня восень павуціньнем/ аснавала, серабром, / залатога лёну жменя/ сыпле іскрамі кругом./ Пад рукамі маладзіцаў/ лён ды зь песьнямі паплыў/ мігатліваю крыніцай,/ каласістай хваляй ніў./ Трэплюць, чэшуць на кудзелі,/ скарб пушысты гладзяць свой,/ каб пад сьнежныя мяцелі/ прасьці сіваю зімой./ Ня раз месяц па дарозе/ пройдзе ціха ля вакна/ ды, прысеўшы на бярозе,/ вып'е ночку аж да дна./ А жанчыны аж да рана,/ пад лучынавы агонь,/ зь песьняй, думкай аб каханьні,/ будуць тонкі прасьці лён".

Паэтычныя радкі нясуць таксама істотную інфармацыю пра этапы апрацоўкі лёну: пасеў, рост, рванне, абіванне, сланне, мяцце, трапанне, часанне, прадзенне... Партал: „Для пасеву лёну выбіралі пэўныя дні тыдня. Лічылася, што лепей за ўсё сеяць лён у пятніцу або суботу. Рвалі лён у другой палове жніўня. Затым вязалі ў снапкі і ставілі для прасушкі ў бабкі. Для абівання льняных галовак карысталіся пранікам. Для змякчэння трасцы лён рассцілалі на лузе або льнянішчы звычайна ў канцы жніўня, у час вялікіх рос. Пры дажджлівым надвор'і саломка вылежвала 3-4 тыдні, пры сухім — 5-6. У некаторых раёнах яе вымочвалі (часам спачатку вымочвалі, а потым рассцілалі). Валокны з мачанца лепш выбельваліся і былі больш моцнымі. Гатовую трасцу звязвалі ў кулі, сушылі ў ёўні, на печы. Далей лён церлі ў церніцах, або мялках — прыладах для мяцця льняной ці канапляной трасцы. Каб канчаткова ачысціць лён ад кастрыцы, яго трэба было трапаць траплом, а затым часаць на часалцы. У выніку атрымлівалі кудзелю ці кужаль у залежнасці ад якасці. У лістападзе пачыналі працы, пралі на працягу ўсяго тыдня за выключэннем святочных дзён і нядзелі. Беларускія жанчыны і дзяўчаты пралі і верацяном і на калаўроце". Церлі лён жанчыны, талакою, падсушваючы яшчэ яго на жэрдках накінутых на яму са сціплым вогнішчам. А пазней, калі на калаўроце была поўная шпуля нітак, іх маталі ў моткі на матавілах, моткі клалі на вітушкі, з якіх пераносілі пражу на катушкі, а адтуль снавалі на сноўніцы аснову, якую навівалі на кроснавыя навоі, навівалі на цэўкі вуток...

Археалагічныя знаходкі пацвердзілі прысутнасць лёну на тэрыторыі сённяшняй Грузіі каля трыццаці пяці тысяч гадоў таму. У Маравіі знойдзены астанкі лёну амаль трыццацітысячагадовай даўнасці. Акультурванне лёну пачалося ў старажытнай Месапатаміі. З ходам часу культурны лён здабываў штораз абшырнейшыя тэрыторыі. Яго сталі разводзіць старажытныя грэкі, рымляне, кельты, галы; трапіў ён і да славян. На нашу тэрыторыю трапіў лён верагодна ў раннім Сярэднявеччы. Да канца XVIII стагоддзя, да прамысловай рэвалюцыі, лён быў побач воўны другою пражай ў Еўропе; ільняная пража складала тады 18% усёй тэкстыльнай сыравіны, а воўна 78%. Пазней стала часцей паяўляцца бавоўна, з якой пража таннейшая за льняную; у канцы XIX стагоддзя ўдзел ільняной пражы згарнуўся да 6%, ваўнянай да 20%, а ўдзел бавоўны вырас да 74%. Ну, супраціўціца гэтаму трэнду задумалі гітлераўцы ў рамках аўтаркічнай палітыкі самазабеспячэння: з 1933 да 1937 года арэал разводу лёну ў Германіі павялічыўся ў дваццаць разоў: з пяці тысяч да ста тысяч гектараў!

Не першая гэта была спроба забяспечыць сабе тэкстыльную сыравіну і яе эфектыўнае выкарыстанне. Напалеон Банапарт таксама намагаўся вызваліцца ад тэкстыльнай залежнасці звонку; завоз воўны ў Францыю быў блакіраваны англійскім флотам. Напалеон аб'явіў конкурс з узнагародай у мільён франкаў таму, хто прыдумае машыну для тонкай механічнай пражы лёну. Машына была задумана, але паколькі Напалеон быў ужо пазбаўлены ўлады, то і ягоная задума ў Францыі не прынялася. Затое расійскі цар Аляксандр I запрасіў да сябе аўтара вынаходства, французскага інжынера Філіпа Жырара. Запрашэнне было прынята, на захад ад Варшавы быў узведзены комплекс тэкстыльнай прамысловасці, паўстаў горад названы Жырардавам. Тут апрацоўка лёну ўзяла машынны размах. Спрыяла гэтаму і сыравінная сітуацыя — Расійская Імперыя была галоўным пастаўшчыком лёну на сусветныя рынкі. У XIX стагоддзі лён быў галоўным экспартным таварам Расіі і даваў ёй 30% прыбытку ад замежнага гандлю.

Постфабрычны стэнд у Жырардаве: „Вырабы жырардаўскай мануфактуры вядомыя былі ў Каралеўстве Польскім, на ўсіх рынках Расійскай Імперыі, а таксама ў Японіі, Кітаі і Персіі. Слава жырардаўскіх ільняных вырабаў была пацверджана 24 медалямі, атрыманымі на шматлікіх выставах ва ўсёй Еўропе, а таксама ў Філадэльфіі. Найбольшы поспех гэта дыплом і медаль Гран-пры на сусветнай выставе ў Парыжы ў 1900 годзе. Ужо з 1843 года фабрыка была ўганаравана правам памяшчаць на этыкетках сваіх вырабаў герб імперскай Расіі, што было найвышэйшым прызнаннем з боку дзяржавы. Гэтае права было пацверджана ў 1870 і ў 1896 гадах. Настольныя вырабы вызначаліся найвышэйшай дасканаласцю і прыгажосцю. Жырардаўскія адамашкі і жакардавыя ўзоры на абрусах і сурвэтах былі па-за канкурэнцыяй у параўнанні з заходнееўрапейскімі. Намагаючыся трымаць на высокім узроўні багацце ўзораў, расфарбоўкі і каларыстыкі на тканінах, жырардаўскі завод меў асобнае аддзяленне, званае рысункавым, у якім адукаваныя мастакі распрацоўвалі славутыя жырардаўскія ўзоры. Пра адметнасць і прызнанне сведчыла таксама развітая сець магазінаў і фабрычных складоў, м.інш. у Варшаве, Лодзі, Любліне, Маскве, Пецярбургу, Кіеве, Адэсе, Коўне, Гродне, Вільні, Рызе. Жырардаўскі завод выпускаў таксама шырокі асартымент не толькі льняных тканін, але таксама баваўняных, плюшавых, панчошных і трыкатажных вырабаў". Пік росквіту жырардаўскай фабрыкі выпаў на 1910-1914 гады. У Першую сусветную вайну фабрыка была значна знішчана. У 1945-1989 гадах завод быў галоўным працадаўцам і ўласнікам грамадскай структуры горада. 1990-я гады прынеслі ўпадак большасці польскіх тэкстыльных фабрык, у тым ліку і жырардаўскай. Зараз на месцы жырардаўскага льнокамбіната музей прысвечаны лёну і яго перапрацоўцы; камбінат жа быў вытворцам шыкоўных фінальных вырабаў з гатовага кужалю; мабыць менш пашанцавала пастаўшчыкам таго кужалю, звычайным ільнозаводам...

Той трэнд, які з'явіўся два стагоддзі раней, працягнуўся, лён саступіў месца іншай тэкстыльнай сыравіне, галоўным чынам баваўнянай, часткова сінтэтычнай. І лён таксама перастаў упрыгожваць нашы краявіды. Зніклі не толькі блакітнакветныя палеткі лёну, зніклі склады льняной сыравіны, якія ў нас былі, калі не памыляюся, у Ягуштове і Ляневе. На месцы, дзе быў бельскі льнозавод, *рашарня*, зараз расце тое зелле, якое палолі на льняных палетках, каб лён рос залацістывалакністы; гэта бадай усё, што тут пасля нашага лёну асталося...

Лён рвалі пад восень, а сеялі ў маі, каб паспець да свята ў гонар святой Галены (21 мая/ 3 чэрвеня), якая лічыцца нябеснай заступніцай лёну. Сяўба лёну адбывалася з адпаведнай абраднасцю. Як пісаў расійскі этнограф Сяргей Максімаў, у шматлікіх месцах адбывалася г.зв. падманванне лёну. У час сяўбы жанчыны распраналіся дагала ў спадзяванні ўзбуйнення ўраджаю. Бачыўшы лён, гледзячы на іх галізну, меў літавацца над імі: „Гэтыя бабы бедныя, у іх ніякай вопраткі нават няма, трэба будзе пашкадаваць іх і лепш вырасці...".

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960 21